

# БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ

BELARUSIAN DIGEST

ГАЗЭТА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА ў АМЭРЫЦЫ

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI 49546-3616 USA.

№ 6(101) Чэрвень 2002 June Год выд. 10.


# NATO: плюс Украіна, мінус Беларусь

Напярэдадні сустрэчы Аляксандра Лукашэнкі й Леаніда Кучмы Украіна абвесьціла пра сваё жаданьне ўступіць у NATO. Украінскія палітолягі сьцьвярджаюць: Кіеў нарэшце зрабіў стратэгічны выбар на карысьць Захаду, што ёсьць своеасаблівым адказам Украіны Расеі, якая супрацоўнічае з NATO ў фармаце 20-ткі. "Беларусь застаецца адзіным антызаходнім анклявам у Эўропе", - канстатуюць беларускія палітолягі…

Лідэры абедзьвюх краінаў не сустракаліся сам-насам з 1999 году, калі Кучма не запрасіў Лукашэнку ў Ялту на саміт кіраўнікоў краінаў Балтыйска-Чарнаморскага рэгіёну, а Лукашэнка адмяніў перамовы ў Белавескай пушчы. Аднак Леанід Кучма ўсё ж наведаў "Славянскі базар" напярэдадні прэзыдэнцкіх выбараў у Беларусі, што было ўспрынята як падтрымка Лукашэнкі. Высьвятленьне адносінаў паміж Кучмам і Лукашэнкам, верагодна, працягнецца ў Чарнігаве.

Лукашэнка неаднойчы публічна заяўляў, што бачыць будучыню Украіны ў славянскім саюзе Беларусі й Расеі. Афіцыйны Кіеў абвесьціў, што жадае стаць сябрам NATO. Гэта, натуральна, руйнуе геапалітычныя канструкцыі беларускага лідэра.

Сам Леанід Кучма назваў рашэньне ўступіць у NATO як "эпахальнае й лёсавызначальнае для Украіны". Украінскія палітолягі гавораць, што гэтая гучная заява ёсьць контрапунктам Кіева да візыту амэрыканскага прэзыдэнта Буша ў Маскву: уваходжаньне Расеі ў дваццатку NATO выразна прадэманстравала, што Крэмль сёньня ўжо бліжэйшы да Альянсу за Кіеў. Пра гэта Рацыі заявіў кіраўнік Украінскага цэнтру палітычных дасьледаваньняў і канфліктalёгіі Мыхайла Пагрэбінські.

Палітычная каньюнктура вельмі простая. Па-першае Буш быў у Маскве. Па-другое, у Рыме пачынаецца самі NATO-Расея. Па-трэцяе, праз месяц да нас прыяжджа Робэртсан з камандай. Па-чацьвертае, у Чэхіі адбудзецц надзвычай важны саміт па прыняцьці новых сябраў. Туды запрошаныя й прэзыдэнт Расеі, і прэзыдэнт Украіны. Пуціну ёсьць з чым туды прыехаць, бо ўжо існуе фарма дваццаткі Расеі-NATO. Таму й Кучма хацеў бы прыехац туды са сваімі прапазыцыямі па разьвіцьці стасункаў NATO.

Аляксандар Лукашэнка запрашэньня на саміт у Чэхію, натуральна, не атрымаў. І, мяркуючы па рыторыцы беларускага лідэра, наўрад ці атрымае. Беларусь застаецца адзінай антызаходняй краінай у Эўропе, якая самаізалюецца ад агульных працэсаў. Так лічыць беларускі палітоляг Уладзімер Роўда.

Беларусь апынулася ў вельмі складанай сытуацыі, бо яе стратэгічны партнэр - Расея - праводзіць іншы замежнапалітычны курс, іншую замежнапалітычную арыентацыю. Тое, што Украіна таксама пачынае актыўна дзейнічаць у кірунку NATO, азначае, што будзе павялічвацца ізаляцыя беларускага рэжыму. І адзінае выйсьце для афіцыйнага Менску ў тым, каб перагледзець свой замежнапалітычны й унутрапалітычны курс. Але мне здаецца, што каманда Лукашэнкі на гэта ня здольная.

Паводле Ўладзімера Роўды, Расея пакуль зацікаўленая ў існаваньні беларускага антызаходняга анкляву. Беларусь не дае злучыцца заходнім суседкам Расеі ў "санітарную зьвязку" Украіна-Беларусь- Балтыка. Аднак як толькі гандаль Расеі з заходнімі структурамі скончыцца, пытаньне Беларусі будзе вырашанае.

Мне здаецца, што анкляў - гэта часовая зьява. Ёсьць дзьве стратэгіі разбурэньня гэтага анкляву. Першая стратэгія - проста паглынаньне Беларусі Расеяй. Туды вядуць усе інтэграцыйныя праекты, і гэта найлепшы сцэнар для расейскіх палітыкаў. З гэтым можа пагадзіцца Захад, але ня Злучаныя Штаты. Другі варыянт - зьмена рэжыму. Гэта дасягненьне нейкіх палітычных зьменаў тут і правядзеньне, напрыклад, датэрміновых прэзыдэнцкіх выбараў і г. д. Ёсьць шмат сцэнароў, каб рэалізаваць гэты другі варыянт. Юрась **Караманаў** (R.R.)



**У войсковай базе пад Рымам лідэры 19 чальцоўскіх краінаў NATO разам з прэзыдэнтам Расеі падпісалі Рымскую Дэклярацыю – дамову пра зацясьненьне супрацоўніцтва паміж пактам і Масквой.**

Расейская Фэдэрацыя будзе мець у Паўночна-Атлянтычным Пакце права голасу, але бяз права вэта. Супрацоўніцтва будзе датычыць 10 галінаў, у першую чаргу, барацьбы зь міжнародным тэрарызмам. Расеі ня будзе датычыць 5 артыкул трактату, які накладвае на чальцоўскія краіны абавязак дапамогі заатакаванаму саюзьніку. Дзяржавы NATO могуць выказаць свой супраціў адносна інфармаваньня Масквы пра пэўныя справы, калі вырашаць, што гэта пагражае іхным інтарэсам. Генэральны сакратар пакту Джордж Робэртсан й арганізатар саміту Сыльвіё Бэрлюсконі падкрэсьліваюць пераломнае й гістарычнае значэньне дадзенай дамовы. З увагі на бясьпеку кіраўнікі краінаў і ўрадаў, сярод іх таксама прэзыдэнт Польшчы Аляксандар Квасьнеўскі, прыляцелі на паседжаньне непасрэдна ў базу й ня будуць яе пакідаць.

++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++

## А. ЛУКАШЭНКА "ВЕЛЬМІ ЎВАЖЛІВА" ВЫВУЧАЕ ЗАЯВУ УКРАІНЫ АБ ЗБЛІЖЭННІ З НАТО

Кіраўніцтва Беларусі ўважліва вывучае намер Украіны інтэгравацца ў НАТО і зрабіла з гэтага "адпаведныя высновы". Пра гэта заявіў прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка 29 мая ў Чарнігаве на прэс-канферэнцыі па выніках сустрэчы са сваім украінскім калегам Леанідам Кучмам.

"Украінскі бок, наколькі я ведаю, ніякіх заявак у НАТО не падаваў, але зрабіў прынцыповую заяву пра кірункі супрацоўніцтва з Паўночнаатлантычным альянсам. Гэта яе суверэнная права. Ніхто не мае права дыктаваць Украіне, якім чынам ёй будаваць міжнародныя адносіны з любымі атлантычнымі, эўраатлантычнымі, сусветнымі дзяржавамі і арганізацыямі. Гэта яе суверэнная права, і ніхто адабраць гэтае права не можа, і мы, як бы не ставіліся да гэтага, вымушаныя будзем, маглі б лічыцца з гэтым. Украіна ў сувязі з новымі рэаліямі, што складваюцца пасля такіх адносінаў Расіі з НАТО, прыняла адпаведнае рашэнне. Мы самым уважлівым чынам вывучаем гэты ход Украіны для таго, каб зрабіць адпаведныя высновы, а можа быць, і адпаведны рух з боку Беларусі", - сказаў А.Лукашэнка.

Беларускі прэзідэнт падтрымаў Л.Кучму "у тым, што патрэбна рабіць усялякія крокі, якія будуць садзейнічаць стабілізацыі абстаноўкі ў гэтым рэгіёне, а таксама ўмацаванню міру і бяспекі".

"Канешне, была размова і на гэтую тэму, - сказаў на прэс-канферэнцыі Л.Кучма. - Мы віталі, што Расія ідзе на збліжэнне з НАТО. Мы лічым, што неабходна зменшэнне ўсялякіх пагроз і забеспячэнне стабільнасці на еўрапейскім кантыненце. Украінскі бок зрабіў вельмі сур'ёзны крок, заявіўшы пра тое, што мы бачым НАТО як адну з галоўных сістэм стабільнасці на кантыненце".

БелаПАН.

**************************************************

**BELARUSIAN DIGEST**
Беларускі Дайджэст

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI. 49546-3616
U.S.A.
Phone: (616) 942-0108; Fax: (616) 942-6364
E-mail: bdigest@iserv.net
Publisher & Editor — Nikolas Prusky
Выдавец і Рэдактар — Мікола Прускі

Belarusian Digest, (ISSN 1079-7696) is published monthly by Belarusian Digest, 1086 Forest Hills, SE. Grand Rapids, MI 49546-3616, U.S.A.
Артыкулы і допісы могуць выяўляць пагляды, з якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# Пра знішчэнне беларускай мовы і пра неабходнасць яе абароны

**Заява Кансерватыўна-Хрысціянскай Партыі -- БНФ**

Гісторыя еўрапейскага нацыянальнага адраджэння, якое было арыентавана на стварэнне вольнай нацыянальнай дзяржавы праз нацыянальнае асветніцтва народа, паўсюдна засведчыла галоўнае пытанне і галоўную каштоўнасць нацыі, за якую найперш змагаліся адраджэнцы ва Усходняй і Цэнтральнай Еўропе. Такой каштоўнасцю была нацыянальная мова. Яе значэнне не падважваецца, яе неабходнасць і яе існаванне не дыскутуецца, гэтаксама як не дыскутуецца само жыццё.

Для Беларусі, якая, страціўшы незалежнасць, стала аб'ектам чужой асіміляцыйнай палітыкі, захаванне і сцвярджэнне беларускай мовы ёсць не толькі першаснай неабходнасцю, але і першай умовай існавання нацыі. Прыярытэт беларускай мовы наўпрост звязаны з дзяржаўнай незалежнасцю і нацыянальнай свядомасцю народа.

Без грамадскага і дзяржаўнага сцвярджэння беларускай мовы, без усведамлення яе вызначальнай ролі для гістарычнай рэалізацыі беларускай нацыі ўсе спробы захаваць незалежнасць краіны, наладзіць эканоміку, узвысіць культуру і ўзровень жыцця асуджаны на правал.

Сведчаннем гэтаму ёсць беларуская гісторыя апошніх двухсот гадоў акупацыі і паводзіны палітычных непрыяцеляў беларушчыны.

Апошнія сем гадоў ідзе комплекснае і пакрокавае вынішчэнне ўсяго беларускага.

Беларуская мова -- галоўны чыннік беларускае нацыі. Пакуль існуе мова -- існуе нацыя. Беларуская мова змагла пераадолець часы паланізацыі, гвалтоўнай русіфікацыі, бальшавіцкай навалы і шматлікіх войнаў.

Акупацыйныя рэжымы заўсёды імкнуліся разбурыць найперш мову для таго, каб пазбавіць нацыю гістарычнай памяці і перспектывы, згуртаванасці і волі да супраціву. Не сталі выключэннем і дзеянні лукашэнкаўскага рэжыму, які па ўказанні з Масквы і з яе дапамогаю ўсталяваў у Беларусі ўнутраную акупацыю. Не зважаючы на тое, што ніхто не мае права распараджацца лёсам нацыянальнай мовы, якая належыць усім пакаленням беларусаў, у траўні 1995 года быў арганізаваны так званы рэферэндум па мове. Скарыстаўшы метад гвалтоўных маніпуляцый, рэжым навязаў беларусам расійскую мову ў якасці дзяржаўнай. Галоўны ўдар быў нанесены па сістэме адукацыі. На асноўныя ролі тут пастаўлены асобы з выразна акрэсленай антыбеларускай пазіцыяй, вызначаныя на бязлітаснае вынішчэнне беларускай мовы і татальную русіфікацыю. На сённяшні дзень у Беларусі засталіся адзінкі беларускіх садкоў, школ і класаў. Беларуская мова амаль цалкам выцесненая з вышэйшых навучальных устаноў. Паўсюдна ўведзеная расійская мова і расійскія методыкі -- ёсць інструмент паняволення маладых беларусаў, разбурэння іх нацыянальнай тоеснасці, адлучэння ад найлепшых нацыянальных і сусветных традыцый. Імёны магільшчыкаў беларускай нацыянальнай мовы вядомыя. І ўсе яны будуць адказваць за парушэнне канстытуцыйных правоў беларускага народа.

Беларуская мова як дзяржаўная незаконна ігнаруецца ў адміністрацыях, міністэрствах, ва ўстановах і на прадпрыемствах. Уся сістэма справаводства вядзецца па-расійску. У структурах улады выракліся беларускай мовы, дэманстратыўна размаўляюць на мове іншай дзяржавы. Грамадзянам паўсюдна адмаўляецца ў выдачы любых дакументаў на дзяржаўнай беларускай мове. У краіне запанавала чужая, небеларуская, інфармацыйная прастора. На радыё і тэлебачанні да мінімуму скарочаная колькасць беларускамоўных перадач. Усе аналітычныя праграмы выходзяць выключна па-расійску. Пераважная большасць газет і часопісаў (у тым ліку і незалежных) выдаецца на расійскай мове. Рэклама вырабляецца не на мове карэннай нацыі. Кнігарні краіны запоўнены нізкавартаснай літаратурай на расійскай мове.

Знішчэнне беларускай мовы і насаджэнне расійскай рэжым цынічна ажыццяўляе на грошы з падаткаў беларускіх грамадзян. Пры гэтым замоўчваюцца вынікі перапісу насельніцтва Беларусі 1999 года, паводле якога 81,2% жыхароў краіны назвалі сябе беларусамі, а з іх 85,6% прызналі роднаю моваю толькі беларускую мову. Прамаскоўскі рэжым стварыў на Беларусі спрыяльныя ўмовы для расійскай інфармацыйнай палітыкі, якая набыла праявы маштабнай інфармацыйнай вайны супраць беларускай нацыі. Расійскія сродкі масавай інфармацыі на эрзац-мове насаджаюць у нашай краіне культ гвалту, крымінальнай сілы, непавагі да асобы. Краіну захліснула навала ідэалагічных гастралёраў пад выглядам "эстрадных, цыркавых і тэатральных калектываў Расіі", якія пашыраюць атмасферу бездухоўнасці ў беларускім грамадстве.

Галоўны аб'ект расійскай інфармацыйнай зброі -- беларуская моладзь. Пад уздзеяннем гэтай разбуральнай інфармацыйнай навалы маладыя беларусы, адлучаныя ад нацыянальнай мовы і багатых беларускіх традыцый, лёгка становяцца ахвярамі наркаманіі і п'янства, што вядзе да росту злачыннасці, захворванняў на СНІД, духоўнай і фізічнай дэградацыі. Наменклатура ж праз фармальныя нарады і семінары здатная толькі бездапаможна імітаваць "клопат пра выхаванне моладзі".

Актыўную русіфікацыю насельніцтва Беларусі праводзіць руская праваслаўная царква, якая традыцыйна дзейнічае ў Беларусі як антынацыянальны фактар.

Дзеля таго, каб пазбавіць Беларусь нацыянальнай эліты, прамаскоўскі рэжым метадычна разбурае беларускую навуку (у тым ліку і пад выглядам "рэфармавання" Нацыянальнай акадэміі навук), нацыянальныя творчыя саюзы, цэнтры і ўстановы. Беларускія навукоўцы і творцы даведзеныя да жабрачага стану.

Каб пазбавіць Беларушчыну матэрыяльнага апірышча ў сваёй краіне, рэжым брутальнымі метадамі здушыў беларускае прадпрымальніцтва. І сёння ўжо нішто не замінае Лукашэнку аплачваць свае ўласныя даўгі расійскім алігархам беларускімі прадпрыемствамі -- нацыянальным здабыткам пакаленняў беларусаў. Самі ж беларусы на сваёй зямлі ператвараюцца ў бяспраўных наёмных рабочых.

Апошнімі гадамі актывізаваліся негатыўныя міграцыйныя працэсы. Найбольш актыўная і адукаваная частка беларускага грамадства змушаная шукаць лепшай долі па-за межамі краіны. А тым часам павялічваецца наплыў у Беларусь "русскоязычного населения" з усёй постсавецкай прасторы.

Шкода, нанесеная Беларусі палітыкай татальнай русіфікацыі, можа быць параўнаная толькі з наступствамі Чарнобылю. Прамаскоўскі рэжым антынацыянальнай палітыкай спраакаваў дэмаграфічную катастрофу ў краіне: ад 1994 года насельніцтва Беларусі зменшылася на паўмільёна, значна скарацілася сярэдняя працягласць жыцця беларусаў, нараджальнасць знізілася да ўзроўню ваенных часоў. Мільёны жыхароў краіны існуюць па-за рысай беднасці.

Усё гэта сведчыць, што прамаскоўскія палітычныя сілы, якія загарнулі ўладу ўнутры Беларусі, вядуць прадуманую палітыку знішчэння беларускай мовы. Такая палітыка з'яўляецца часткай этнацыду, ёсць асноўным парушэннем правоў народа і правоў асобы. Сітуацыя, якую стварыў на Беларусі рэжым унутранай акупацыі, сведчыць пра тое, што культурнае існаванне беларускай нацыі ў небяспецы.

Мы лічым неабходным звярнуцца да ўсёй краіны і да ўсіх беларусаў у свеце з заклікам абараніць беларускую мову.

Існуюць агульныя міжнародныя правілы сужыцця ў грамадстве, якія абавязковыя для ўсіх людзей на зямлі. Не павінен чыніцца гвалт з чалавека. Нельга дапускаць дзеянняў, накіраваных на знішчэнне цэлай нацыі. Ніхто нікому не мае права зачыняць перспектыву развіцця. Ад любой улады неабходна патрабаваць выканання гэтых правілаў.

Мы патрабуем ад рэжыму ўлады на Беларусі спыніць этнацыд і знішчэнне беларускай мовы.

* * *

У Беларусі беларуская мова (і толькі беларуская мова) мусіць быць дзяржаўнаю моваю. Руская мова, як мова іншай краіны, навязаная ўладным рэжымам, не павінна выконваць функцыі дзяржаўнай мовы ў Беларусі.

Мова дзяржаўных устаноў мусіць быць беларускай. Неабходна адрадзіць беларускую школу. Вышэйшую адукацыю беларуская моладзь павінна атрымліваць у беларускай мове. Уся дзяржаўная дакументацыя мусіць весціся па-беларуску (гэтаксама, як і раней, яшчэ да часоў расійскай акупацыі).

Сродкі масавай інфармацыі мусяць працаваць на дзяржаўнай беларускай мове. Дзеля гэтага павінны быць створаныя заканадаўчыя магчымасці. Надпісы, шыльды, указальнікі -- у беларускай мове.

Напачатку дзеля вяртання справядлівасці, адраджэння і ўмацавання дзяржаўнага статусу беларускай мовы мусяць быць створаныя прыярытэтныя ўмовы для яе развіцця.

Беларуская нацыя ёсць аўтахтоннай на сваёй тэрыторыі. Яна ёсць натуральнай і спрадвечнай уладальніцай сваёй працы, зямлі і дзяржавы. Толькі тут, на сваёй тэрыторыі і ў сваёй дзяржаве, яна можа гістарычна рэалізоўвацца, развіваць сваю культуру і род. У гэтым выяўляецца яе прыроднае прыярытэтнае права на сваё існаванне на сваёй зямлі, на універсалізацыю сваёй мовы, на сваё багацце і культуру. Ніхто чужы не мае права накінуць беларусам сваю чужынскую мову.

Цяпер, калі рэжым улады ўзмацніў знішчэнне беларускай мовы па ўсіх кірунках, беларусам трэба на ўсю сілу абараняць сваю мову.

Кожны беларус павінен імкнуцца ўсюды гаварыць па-беларуску. Кожны павінен імкнуцца вучыць сваіх дзяцей у беларускіх школах, а там, дзе іх зачынілі ды перарабілі на расійскія, -- патрабаваць вяртання статусу беларускай школы. Але перш за ўсё неабходна, каб выкладанне ва універсітэтах вялося па-беларуску.

За беларускую мову ў гэтых надзвычай неспрыяльных абставінах трэба змагацца штодзённа. У мове закладзена будучыня нашых пакаленняў. Рэжым улады на Беларусі, які знішчае беларускую мову, парушае тым самым асноўныя і найгалоўнейшыя правы народа і асобы чалавека. Беларусы, бароначы мову, мусяць не толькі змагацца з унутранай акупацыйнай палітыкай, але і звяртацца ў міжнародныя арганізацыі па правах людзей, бо, падкрэсліваем, найважнейшае пытанне незалежнасці, свабоды і існавання Беларускай нацыі -- гэта ёсць існаванне, развіццё і аднаўленне дзяржаўнай ролі Беларускай мовы.

Сойм Кансерватыўна-Хрысціянскай Партыі -- БНФ лічыць, што спыніць разбуральныя этна-культурныя тэхналогіі, якія апрабоўвае на беларускай нацыі Масква, можна толькі праз адхіленне ад улады антыбеларускага рэжыму Лукашэнкі.

Сойм заклікае патрабаваць новых прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі пад міжнародным пратэктаратам.

Сойм прапануе прадстаўнікам дыпламатычных місіяў, акрэдытаваных у Беларусі, міжнародным арганізацыям у перапісцы са структурамі ўлады і ў сваіх публічных выступах выкарыстоўваць дзяржаўную беларускую мову.

Сойм звяртаецца да беларускіх грамадскіх і міжнародных арганізацыяў пашыраць у свеце інфармацыю пра маштабы этна-культурнай катастрофы, якая напаткала Беларусь у выніку імперскай агрэсіі Расіі.

Мы прапануем беларускай нацыянальнай эліце і беларускаму грамадству супольна выступіць з ініцыятывай правядзення Усебеларускага З'езда ў абарону дзяржаўнай беларускай мовы і беларускай нацыі.

## Нямецкія дыпломы атрымалі беларускія выпускнікі

51 выпускнік гімназіі-каледжа № 24 і сярэдняй школы № 73 горада Мінска атрымаў дыпломы па нямецкай мове другога ўзроўню, заснаваныя камітэтам Канферэнцыі міністраў адукацыі і культуры зямель Нямеччыны.

Такі дыплом дазваляе паступаць у ВНУ Нямеччыны без здачы экзаменаў па нямецкай мове. Дадзены дакумент пацвярджае высокі ўзровень валодання нямецкай мовай і прызнаецца ва ўсім свеце. На сённяшні дзень уладальнікамі дыплома зьяўляюцца 134 выпускнікі школ з Беларусі. Да экзамена на атрыманне дыплома па нямецкай мове прад'яўляюцца высокія патрабаванні згодна з нямецкімі нормамі. Экзамен складаецца з пісьмовай і вуснай частак і зьяўляецца для выпускнікоў гэтых школ бясплатным. Такі экзамен на працягу вось ужо 30 гадоў здаюць навучэнцы 45 краін.

## Беларусь у NATO...

**Падчас сустрэчы прэзыдэнтаў Беларусі і Ўкраіны ў Чарнігаве 29 траўня Лукашэнка гэтак адкамэнтаваў рашэньне Ўкраіны пачаць працэдуру ўступу ў *NATO*:** "Мы ўважліва вывучаем гэтае рашэньне. З нашага боку будзем ня толькі рабіць адпаведныя высновы, а можа і рухі — трэба рабіць розныя крокі. Ня думайце, што мы наагул не вядзем ніякага дыялёгу з NATO".

*************************************************

## Праўду трэба ведаць!..

**Некалі Ўкраіна і Беларусь паставілі Захад перад фактам сваёй незалежнасьці. Нягледзячы на тое, што Буш і Тэтчэр спэцыяльна наведалі Кіеў у 1991 г., каб засьцерагчы нашы краіны ад роспуску СССР...**

**Буш і Тэтчэр са сваімі дараднікамі вельмі хацелі ўтрымаць СССР, але ім гэта не ўдалося... Пра гэта трэба памятаць...**

Нью-Ёрк, 7 травеня 2002 г.

## ЗАЯВА

### пра пагром беларускіх літаратурных часапісаў урадам Рэспублікі Беларусь

Нядаўная пастанова ўраду Беларусі аб стварэньні голдынгу, у руках якога будуць фінансы на выдаваньне літаратурных пэрыёдыкаў, і прызначэньне на пасаду галоўных рэдактароў літаратурных часапісаў асобаў, гатовых выконваць урадавы кантроль -- гэта яшчэ адзін крок у наступе на беларускую нацыянальную культуру. Рэакцыйная расейшчына, якую культывуе ўрад Беларусі ўва ўсіх сфэрах жыцьця, дабіраецца цяпер да нацыятворчага й дзяржаватворчага ядра, каб павярнуць у адваротны бок працэс станаўленьня беларускае нацыянальнае дзяржаўнасьці.

Беларуская літаратура, нават ва ўмовах адноснай несвабоды, заўсёды ўплывала на фармаваньне й пашырэньне ідэі аб жыцьцёвасьці беларускай нацыі, ейнай апрычонасьці ды гістарычным шляху да рэалізацыі ідэалу свабоды й незалежнасьці. У гэтым працэсе родная літаратура была й застаецца носьбітам нацыянальнай тоеснасьці (ідэнтытэту), выказьнікам запаветных жаданьняў народу ды сродкам абароны ягоных інтарэсаў. Цяперашні наступ на літаратуру праз урадавы кантроль літаратурных друкаваных органаў – гэта наступ на беларускасьць, на выніка працы папярэдніх пакаленьняў патрыётаў Бацькаўшчыны, гэта далейшы этап у разгроме пісьменьніцкай арганізацыі.

Мы асуджаем гэты крок лукашызму як чарговае злачынства супраць беларускага народу. Адначасна мы заклікаем усіх прыхільнікаў справы нацыянальнага адраджэньня Беларусі як на Бацькаўшчыне, гэтак і ў дыяспары падтрымваць беларускіх пісьменьнікаў усякімі магчымымі спосабамі ў іхнай абароне сваіх правоў ды магчымасьцяў нармальнай творчай працы. Няхай сёлетняе 120-годзьдзе народзінаў волатаў літаратуры Янкі Купалы й Якуба Коласа станецца годам узмацненьня нашай агульнай адданасьці справе далейшага разьвіцьця ў свабодных умовах літаратуры як выказьніка волялюбных імкненьняў Беларускага Народу.

Жыве Беларусь!

**Вітаўт Кіпель**, старшыня
Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва
**Янка Запруднік,** сябра Прэзыдыюму
Рады Беларускай Народнай Рэспублікі
**Аляксандар Сільвановіч**, Су-старшыня
Кааліцыі ў Абарону Дэмакратыі й Правоў Чалавека ў Беларусі.



## Так думаю

**Роднае слова будзе жыць!**

Даўно ўжо я не пісаў і не думаў па-беларуску. А вось прачытаў у вашай газеце колішні ліст Якуба Коласа "Але не волю народа выконваюць яны, блізарукія", і ўскалыхнулася душа. Яна і ў мяне баліць за лёс роднай мовы, роднай зямлі. Вялікі наш пясняр выказаў гэты боль з магутнай і пераканаўчай сілай. Толькі "вярхі" яе не пачулі...

У адным я ня згодзен з любімым паэтам: ён верыў (а гэта было ў 56-м, незадоўга да яго канчыны), быццам кіраўніцтва кампартыі Беларусі здолее зрабіць усё, каб наша мова квітнела, бо аб гэтым клапаціўся "вялікі Ленін".

Ня так было на самай справе; гісторыя бальшавізму ў Беларусі -- гэта гісторыя выкаранення ўсяго нацыянальнага, блізкага, дарагога. Тое ж самае творыцца і зараз, толькі яшчэ больш адкрыта і нахабна.

Аб гэтым мы гаварылі, спрачаліся, меркавалі з сябрамі ў маёй брыгадзе, куды я прынёс газету з лістом Коласа. Чыталі яго ўсе, як адзін, і прыйшлі да высновы: толькі тады, калі ўлада павернецца тварам да беларушчыны, будзе спрыяльны клімат для захавання і развіцця нашай мовы. Але гэтага пакуль і блізка няма, нават школьны экзамен па беларускай літаратуры адменены. Ганьба і сорам!

Але, здаецца, нешта скранаецца ў лепшы бок у душы народа. З радасцю назіраю: роднае слова -- сакавітае, любае -- усё часцей чуваць на народных святах, вяселлях, сямейных урачыстасцях. Нядаўна на юбілеі сябра, калі гучалі віншаванні па-беларуску, усе слухалі іх з нейкім замілаваннем, у стоенай цішыні. Патрэбен толькі штуршок, і -- веру -- мова наша вернецца ў кожную хату, кожнае сэрца. Яна жыла і будзе жыць!

(Н.В.)

---

# Ці патрэбны нам беларускамоўны універсытэт?

**Вольга МЯДЗВЕДЗЕВА** (Звязда)

Амаль у сярэдзіне лета, 9-10 ліпеня, у Мінску пад эгідай ЮНЕСКО пройдзе Міжнародны сімпозіум на тэму: «Разнастайнасць моў і культур у кантэксце глабалізацыі». Напярэдадні гэтага форуму, ужо цяпер, праходзяць «круглыя сталы», адзін з іх, на тэму: «Мова, адукацыя і час» рыхтуе Міністэрства адукацыі, Таварыства беларускай мовы і Саюз беларускіх пісьменнікаў. За гэтым «круглым сталом» (а ён адбудзецца 19 чэрвеня ў Нацыянальным інстытуце адукацыі) не ў першы раз спецыялісты з удзелам грамадскасці разгледзяць пытанне пра адкрыццё нацыянальнага універсітэта на беларускай мове... Чатырох факультэтаў у педуніверсітэце імя Танка, некалькіх спецкурсаў у БДЭУ і выкладання гуманітарных дысцыплін па некаторых спецыяльнасцях у БДУ яўна недастаткова для стварэння ў краіне эліты, праслойкі высакакласных спецыялістаў, якая валодала б роднай мовай і карысталася б ёй. Аднак... На пытанне карэспандэнта «Звязды»: «Што вы думаеце пра стварэнне беларускамоўнага універсітэта?» адзін з начальнікаў Міністэрства адукацыі адказаў кароткім пытаннем: «А навошта?». Гэтае пытанне газета пераадрасавала аднаму з арганізатараў «круглага стала» пісьменніку Васілю Якавенку.

**— А сапраўды, навошта спецыялістам патрэбна ведаць беларускую мову?..**

— Справа ў тым, што немагчыма сумленна служыць сваёй Айчыне, не ведаючы яе мовы і культуры. Найперш мовы, бо яна для нас, дарэчы, як і для кожнага народа, — сапраўдная акадэмія, а разам з тым і высокі, асвечаны мінуўшчынай, асвечаны ўсімі святымі храм душы. Мова — народная акадэмія, якую кожны праходзіць, каб стаць годным сынам сваёй Айчыны, каб адпавядаць ёй, Айчыне, або — навуковым стылем — ідэнтыфікавацца са сваім народам. У гэтым — сэнс немалазначны.

Бо, як засведчыў вялікі нямецкі даследчык культуры, філосаф Вільгельм фон Гумбальт, назвы той ці іншай з'явы, прадмета на розных мовах не даюць аднолькавага ўяўлення пра гэту з'яву або прадмет, і тут мае месца рознае іх бачанне. Мова выхоўвае і фарміруе душу яе носьбіта, беларуская мова — генатып беларуса. Губляючы мову, ён дэфармуецца ў вышэйшай генетычна-пластычнай сутнасці сваёй і набывае характарыстыкі, не ўласцівыя карэнным насельнікам. Гэтакім чынам спакваля перараджаецца і народ.

**— Аднак жа ці не дастаткова, што беларускую мову вывучаюць у сярэдняй школе, што існуюць беларускамоўныя газеты, часопісы, кнігі? Дарэчы, у тым жа Міністэрстве адукацыі карыстаюцца статыстыкай, паводле якой 40 працэнтаў насельніцтва нашай краіны дома размаўляе па-беларуску, хаця мінчанам гэта здаецца неверагодным.**

— Аднак, калі гэта і так, дык вельмі хутка гэтыя сорак працэнтаў ператворацца ў чатыры. Паглядзіце, што робіцца з тыражамі беларускамоўных кніг, газет і часопісаў. Беларускамоўная аўдыторыя невялікая і катастрафічна скарачаецца. А для тых дзяцей, якія скончылі школы на роднай мове, няма галоўнага — беларускамоўнага асяродку ў ВНУ і далей, на працы. Вывучэнне роднай мовы на ўзроўні іншаземнай — абсурд. Не выпадкова ж Мікалай Крукоўскі, слынны наш філосаф, настойліва падкрэслівае, што, каб захаваліся культура, нацыя і яе менталітэт, нашы сумленныя грамадзяне павінны не толькі размаўляць, але і мысліць на-беларуску. Насельніцтву павінны быць уласцівыя гістарызм і народнасць душы, арганічнасць душы і культуры, толькі тады наш люд будзе ўяўляць сабой нешта адзінае цэлае і выступаць як народ, нацыя.

**— Чым жа тлумачыцца такое непаразуменне ў стаўленні інтэлігенцыі да культуры і мовы, такая лянота і раўнадушша самога насельніцтва ў справе захавання сваіх скарбаў? Чаму мы пачынаем (альбо працягваем) весці размову пра гэта цяпер, калі міжнародная арганізацыя ЮНЕСКО ўзняла пытанні захавання нацыянальных моў і культур?**

— Багата што абумоўлена нашай гісторыяй. На працягу стагоддзяў таталітарныя рэжымы адвучалі беларусаў нават называць сябе беларусамі. Боязь, няйначай, увайшла ў гены. Цяпер людзям цяжка ўявіць, што мы губляем. Бо мы губляем сябе. Сусветная дэкларацыя аб культурнай разнастайнасці дапамагае нам разабрацца ў гэтых пытаннях. І, як ад перасыхання раўчукоў перасыхае рака, так і ад асобных нацыянальных страт моў, культур, адвечных традыцый увогуле страчвае цывілізацыя. І страты такія, што размова вядзецца пра здрабненне душ, дэградацыю, распад сусветнай супольнасці.

«Круглы стол», які мы збіраем, заклікаты вярнуць нам абачлівасць, прасунуцца хаця б на крок да Беларусі, вярнуць беларусаў на родную этнакультурную глебу.

**— Вы спадзеяцеся, што «круглы стол» будзе не проста папяровай птушкай, а зможа нешта зрушыць?**

— Я ўпэўнены, што калі яго добра падрыхтаваць, дык «круглы стол» можа мець немалое значэнне. Напрыканцы 80-х міжрэспубліканская канферэнцыя, якую арганізаваў Саюз беларускіх пісьменнікаў, прымусіла змяніць нацыянальную палітыку ў меліярацыі, спыніць спрамленне рэчышча Прыпяці і асушэнне яе шырокай поймы. І гэта з'яўляецца для нас натхняльным прыкладам.

Задача, якая стаіць сёння перад намі, — архіскладаная, бадай, з часоў Льва Сапегі мы не ведаем яскравых прыкладаў, каб у грамадстве цывілізаваным манерам вырашалася агульнанародныя, калі не сказаць нацыянальныя, пытанні.

Больш чым 81 працэнт жыхароў краіны, застаўшыся сам-насам з белым лістом паперы падчас перапісу насельніцтва, назвалі сябе беларусамі.

Асаблівасць нашага часу ў тым, што мы называем сябе левымі, правымі, камуністамі, анархістамі, лібераламі, чэснымі, нячэснымі, вертыкальшчыкамі, але, крый Божа, не называем сябе ўслых беларусамі. Такім чынам мы губляем дух, які мелі і які перадалі нам продкі.

І, калі ўсё пакінуць як ёсць, зробіць выгляд, што ніякай моўнай праблемы не існуе, беларусы як народнасць згубяцца, растворацца.

**— Аднак ёсць і іншае меркаванне: можна пачуць стандартныя фразы пра свабоду выбару мовы навучання і адсутнасць праблемы захавання беларускай мовы ўвогуле. Ці не на розных мовах, прабачце за каламбур, будзе весціся гаворка за «круглым сталом», ды яшчэ без перакладчыка?**

— Будзем спадзявацца, што нам хопіць нашай славутай талерантнасці, інтарэсу, імпэту, каб дружна сабрацца на дыялог і скінуць з сябе вузкапартыйную закамплексаванасць, зашэрхласць ды звяртацца адзін да аднаго як беларус да беларуса. Настаў час прызнаць, што мы самі сабе радня, і прызнаць парадаксальным той факт, што сістэма адукацыі не ахоплівае нацыянальны абсяг культуры, нават ідзе не ад яго, таму размыванне духоўных асноў адбываецца насуперак адукацыйнай сістэме і вядзе да выкаранення нас як народа. Факт неаспрэчны, і мне часта прыгадваюцца жорсткія ў сваёй аб'ектыўнасці, справядлівасці ды надзённасці словы выдатнага расійскага вучонага Канстанціна Ушынскага: «Кожнаму народу наканавана іграць у гісторыі сваю ўласную ролю, і, калі ён забыў гэту ролю, ён павінен пакінуць гэтую сцэну: ён больш не патрэбен. Народ без народнасці — цела без душы, якому застаецца толькі падпарадкавацца закону распаду і знішчэння ў іншых целах, што захавалі сваю самабытнасць». Ну ці ж не яскравая карціна, да якой мы набліжаемся?

Адно трэба ўсім разумець, што, калі гэтак адбудзецца, ніхто не застанецца ў выйгрышы. Распад беларускай нацыянальнай супольнасці з яе культурай і мовай нічога не дадасць ні беларусам, ні беларускім татарам, палякам, яўрэям, украінцам, бо страта на гэтай зямлі будзе настолькі вялікая, што дух распаду, паміранья, дэградацыі закране ўсіх. Тлятворныя працэсы пойдуць ушыркі і не палепшаць, а, наадварот, падштурхнуць да ўпадку суседнія этнічныя культуры, да прыкладу, рускую...

**— Васіль Цімафеевіч, хто з пісьменнікаў будзе ўдзельнічаць у «круглым стале»?**

— Вольга Іпатава, Алег Лойка, Алесь Пашкевіч, Леанід Баршчэўскі, Эрнест Ялугін, Алесь Петрашкевіч, іншыя.

**— Спадзяюся, што «круглы стал» будзе плённым, і Міністэрства адукацыі разам з іншымі дзяржаўнымі ўстановамі здолеюць зрабіць важны крок да адраджэння беларускай мовы і самасвядомасці людзей.**

— Мы ўсе на гэта спадзяёмся.

---

## Прэмія Мальдзісу

**Першаму віцэ-прэзыдэнту Беларускага ПЭН-цэнтру Адаму Мальдзісу 29 траўня ўручылі прэмію імя Ганны Краснапёркі за ўнёсак у справу міжнацыянальнага прымірэньня і пашырэньне беларуска-нямецка-жыдоўскіх кантактаў.** Гэтая нямецкая прэмія была заснаваная ў 1998 г. Ганна Краснапёрка ў 16 гадоў трапіла ў Мінскае гета, адкуль ёй удалося ўцячы. У 1970-х яна напісала кнігу "Лісты маёй памяці" — пра падзеі ваенных гадоў і трагедыю вязьняў Менскага гета.

# Разам дойдзем да Купалы

Народны паэт Беларусі Рыгор Барадулін ачоліў Грамадзкі арганізацыйны камітэт сьвяткаваньня 120-х угодкаў вялікага беларускага песьняра Янкі Купалы. Прадстаўнікі дэмакратычнай грамадзкасьці нашай краіны да юбілею слыннага сына зямлі беларускай рыхтуюць шэраг імпрэзаў, у тым ліку навукова-практычную канфэрэнцыю "Купала й незалежнасьць".

У Менску адбылося першае паседжаньне Грамадзкага арганізацыйнага камітэту сьвяткаваньні 120-х угодкаў з дня нараджэньня Янкі Купалы. На паседжаньні аргкамітэту выступілі старшыня Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны Алег Трусаў, старшыня БНФ "Адраджэньне" Вінцук Вячорка, кіраўнік праваабарончага цэнтру "Вясна" Алесь Бяляцкі, вядомы філёзаф Уладзімер Конан. Старшыняваў на паседжаньні вядомы беларускі мастак Аляксей Марачкін. Паводле ягоных словаў, сёлета вырашана падзяліць сьвяткаваньні ўгодкаў Янкі Купалы й Якуба Коласа, якому таксама ў бягучым годзе спаўняецца 120 год.

**А.М.:** - Чаму мы неяк падзялілі - Янка Купала й Якуб Колас? Як бы заўсёды гэта ідзе разам... Мы хочам канкрэтна рабіць справы, канкрэтна рэалізоўваць нашу праграму па найбліжэйшым сьвяце, прысьвечаным 120-годзьдзю Янкі Купалы. Якія пытаньні: самае галоўнае пытаньне - гэта пытаньне ўшанаваньня й праграмнае забесьпячэньне сьвята. Перш за ўсё - гэта правядзеньне навукова-практычнай канфэрэнцыі "Янка Купала й незалежнасьць". Я думаю, што мы гэта рэалізуем. Пакуль цяжка сказаць, дзе будзе праходзіць гэтая канфэрэнцыя, але творчыя сілы гатовыя ўзьняць гэтую тэму. Таму што гэтая тэма сёньня вельмі актуальная ў зьвязку з тым, што адбываецца з нашай беларускай школай, з нашай беларускай мовай і яшчэ ў зьвязку з тым, што з падачы Скобелева, афіцыйных уладаў фактычна існуе забарона на прафэсію. Мы ведаем, што ў часе паездак па сваіх родных мясьцінах Гілевічу, Гальпяровічу, Бураўкіну не даюць забясьпечыць аўдыторыю, а ў некаторых мясьцінах іх фактычна не пускаюць да школьнікаў, да прыкладу, у Паставах. Па-другое, правядзеньня ўрачыстасьцяў, сьвята ля помніка Янку Купалу. Гэта адбудзецца 7 ліпеня. І самае галоўнае, што мы абмяркоўвалі на аргкамітэце, гэта хто б ачоліў гэтую грамадзкую ініцыятыву, грамадзкі аргкамітэт. Спачатку было прапанавана мне, але я далікатна адмовіўся, таму што я - сябра Саюзу мастакоў, а гэты аргкамітэт, гэтую грамадзянскую ініцыятыву павінен ачоліць пісьменьнік, паэт, і мы прасілі, каб гэта зрабіў, даў сваю згоду дзядзька Рыгор - Рыгор Барадулін. Ён даў згоду, і мы вельмі радыя, і я думаю, што мы шмат чаго рэалізуем за гэты невялікі месяц.

Старшыня арганізацыйнага камітэту народны паэт Беларусі Рыгор Барадулін за галоўную задачу бачыць правесьці адзначэньне ўгодкаў Купалы такім чынам, каб яно запомнілася й мела канкрэтныя вынікі.

**Р.Б.:** - Я тут напалову ганаровы, напалову дзейны старшыня. Напалову ганаровы таму, што гады ўжо ня тыя, каб рухацца. У дадзеным выпадку мая задача ў мае гады - больш думаць. Мяркуецца, каб гэта прайшло ня як савецкая аднаразавая акцыя - адсьвяткавалі й забыліся. Гэта дзеля таго, каб узварухнуць падсьвядомасьць беларускую, напомніць беларускаму сэрцу, што ў яго быў прарок, што яны павінны перачытаць яго душой, каб задумаліся, што такое Купала, таму што Бог нам даў Купалу - беларусам, крывічам на вырост, каб мы дараслі да яго душой, думкамі й справамі.

Улады таксама жадаюць адзначыць юбілей песьняра. Прынамсі, шэраг мерапрыемстваў рыхтуе Міністэрства культуры Беларусі, пра што распавёў намесьнік міністра культуры Валеры Гедройц.

**В.Г.:** - У пятніцу 5 ліпеня будзе праводзіцца ўрачысты вечар у Тэатры Янкі Купалы, а 18.00, у суботу, 6 ліпеня - сьвята паэзіі ў Вязынцы. Да таго ж, будзе шмат выставаў і ў Мастацкім музэі, і ў Нацыянальнай бібліятэцы, у Музэі сучаснага выяўленчага мастацтва, шмат чаго ўжо праводзяць у Музэі Янкі Купалы. У Акопах, дзе працаваў Купала, будзе праводзіцца конкурс маладых пісьменьнікаў, паэтаў, і там жа таксама адбудзецца сьвята паэзіі "Нас слова Купалы да творчасьці кліча". Шмат чаго робіцца: і канцэртныя праграмы, і канцэртныя нумары спэцыяльныя рыхтуюцца...

Пасьля размоваў з прадстаўнікамі ўладаў, у Аляксея Марачкіна склалася ўражаньне, што афіцыйныя акцыі будуць нагадваць мерапрыемствы савецкіх часоў. Таму грамадзкі аргкамітэт будзе адзначаць угодкі Купалы самастойна, асобна ад уладаў, закранаючы тыя аспэкты, якім у афіцыйных імпрэзах папросту ня знойдзецца месца.

**А.М.:** - Я сустракаўся зь некаторымі афіцыйнымі асобамі, якія ўдзельнічаюць у гэтай дзяржаўнай праграме. Па тым, як яны арганізоўваюць, гэта будзе як у тыя савецкія часы. Рэжысура свая, свае калектывы й г.д.і г.д. Я ня думаю, што яны правядуць канфэрэнцыю па актуальных, балючых праблемах, як "Янка Купала й незалежнасьць". Толькі мы можам гэта ўзьняць. Я ня думаю, што ў дзень нараджэньня Янкі Купалы яны правядуць такое сьвята, дзе будуць гучаць менавіта актуальныя вершы пра тое балючае, што сёньня ў нас ёсьць. А ў Янкі Купалы шмат чаго такога й у публіцыстыцы, і ў вершах. Таму мы тут не адмяжоўваемся, але мы ведаем, як гэта будзе праходзіць: афіцыйна-бюракратычна. Можа стацца так, што ў Вязынцы, дзе ладзяць сьвята афіцыйныя структуры й раённае начальства, мы далучымся са сваёй праграмай. Я за тое, але як гэта будзе выглядаць... Аднак спадзяваецца на некаторыя такія мерапрыемствы, што афіцыйныя ўлады робяць, ня варта.

Як сказаў Рацьі Рыгор Барадулін, Янка Купала сёньня зьяўляецца надзвычай значнай постацьцю менавіта для сёньняшняй Беларусі.

**Р.Б.:** - Купала - самы актуальны ў беларускай сучаснасьці, таму што ён самы глыбінна беларускі. Я заўсёды кажу, што беларусы - гэта экспэрымэнтальная нацыя ў Бога, і ўва ўсе пэрыяды, калі здавалася, што ўсё зьнішчаецца, Бог тады дае такіх зямных прарокаў, як Каліноўскага, як Купалу, як на дадзены час даў нам Васіля Быкава. Купала як ніхто глыбінна інтэлігентны, глыбінна крывіцкі, глыбінна непахісны беларус. Таму ён і самы сучасны. У нас было многа розных паэтаў, але каб быць такім Беларусам душою й думкамі, з такім касьмічным мысьленьнем... Купала як ніхто іншы, адчуваў беларускі космас і космас навокал. Гэта - не паэт радка, не паэт слупка, гэта - паэт нацыі.

Не сакрэт, што сёньня літаральна ў бядотным стане апынуўся Музэй Янкі Купалы й яго філіі. Прыкладам, дом-музэй Купалы ў Вязынцы, што за 30 кілямэтраў ад Менску, не фінансуецца дзяржаваю шмат месяцаў. Як ужо стала сумнай традыцыяй, на гістарычную памяць у дзяржавы бракуе грошай. Калі яны ўвогуле ёсьць. Рыгор Барадулін выказаўся наконт стаўленьня з боку дзяржавы да беларускай гісторыі, культуры й адукацыі даволі катэгарычна. Паслухаем народнага паэта Беларусі.

**Р.Б.:** - Калі гаварыць на бытавым узроўні, то ёсьць такая прыказка: не да парасят сьвіньні, калі смаліць нясуць. Зараз ува ўлады проста "падсмалілі зад". Ім не да гэтага, яны робяць фармальна, каб адчапіцца. Калі гэта будзе рабіцца, то гэта будзе рабіцца для сьвету, для Захаду, каб паказаць, што і мы прызнаем Купалу. Таму што Купала - гэта такая постаць, што абмінуць яе нельга, абысьці яе нельга, замаўчаць яе нельга - не пераляцець, не пераступіць. Гэта такая постаць. Яны зробяць выгляд, яны зробяць звычайнае савецкае сьвяткаваньне.

Мастак Аляксей Марачкін таксама адзначыў, што ў дзяржавы хапае грошай на што заўгодна, толькі не на культуру й гісторыю. Тую праблему, што музэй Янкі Купалы амаль не атрымлівае грошай ад дзяржавы, спадар Марачкін перад размовай з карэспандэнтам Рацыі абмяркоўваў з дырэктарам музэю Жанай Дапкюнас.

**А.М.:** - Гэта вельмі актуальнае пытаньне, з прычыны якога я толькі што вёў размову з нашай паважанай, дарагой Жанай Казіміраўнай. Яна таксама жалілася, што фактычна не даюць грошай. Грошы ідуць - мы ня ведаем на што. Грошы ідуць на "мэрсэдэсы", невядома, зь якой казны, для раённых граданачальнікаў. Як можна да гэтага ставіцца? Натуральна, адмоўна! Калі й даюць нешта, то толькі проста такога "адчэпнага", але гэта ня тое, што патрэбна.

Аляксей Марачкін сказаў, што аргкамітэт будзе весьці перамовы зь іншымі грамадзкімі арганізацыямі, якія таксама будуць рыхтавацца да сьвяткаваньня, каб выехаць у Вязынку, на радзіму Купалы, разам. У сваю чаргу, Кансэрватыўна-Хрысьціянская партыя - БНФ шточацьвер распачала ладзіць літаратурныя чытаньні ля помніку слыннаму беларускаму песьняру ў цэнтры Менску..

Генадзь **Кесьнер** (R.R.)

*********************************************




Давяраю
Не давяраю

IREX ProMedia і Лябараторыя Новак правялі з 14 па 30 красавіка апытаньне 1063 рэспандэнтаў, паводле якога ступень даверу да Радыё Рацыя найвялікшая (93,9%).

# Тэлебачанне яшчэ не служыла Беларусі...

Беларускі народ не зазнаў у поўным аб'ёме карысці ад дзейнасці на яго бацькоўскай зямлі выдатнага вынаходніцтва чалавецтва – тэлебачанне. Прыйшло і стала масавым яно на Беларусі ў час, калі тут, як і ў іншых саюзных рэспубліках, магутны, шырокаразгалінаваны ідэалагічны апарат ЦК КПСС ажыццяўляў мэтанакіраваную палітыку па збліжэнні і зліцці культур і моваў савецкіх нацый і народнасцяў на базе культуры і мовы рускага народа як самых распаўсюджаных і найбольш развітых у СССР. У выніку з першых гадоў з'яўлення тэлебачання на Беларусі і да сённяшніх дзён апошняе ў значна большых маштабах адпавядала і адпавядае рускім, чым беларускім культурна-моўным стандартам, і таму замест таго, каб стаяць на абароне, садзейнічаць самабытнаму этнакультурнаму развіццю беларусаў, адрывае іх ад прыродных традыцый, няўхільна вядзе па добра ўезджаным шляху русіфікацыі.

Нацыянальна зарыентаваныя колы беларускага грамадства з вялікай радасцю сустрэлі вестку, што ў нас неўзабаве распачне працу другі канал тэлебачання, бо спадзяюцца, што ён, у адрозненне ад першага канала, будзе кіравацца нацыянальнымі інтарэсамі свайго народа, ладзіць перадачы так, каб апошнія не размывалі, а, наадварот, захоўвалі, узбагачалі этнакультурную самабытнасць краіны. На новым тэлеканале антыбеларускай практыцы трэба пакласці канец, калі ставіцца мэтай зрабіць яго (тэлеканал) нацыянальным, а не супэрінтэрнацыянальным.

Каналу належыць мець спецыяльныя гадзіны (і нямала!) толькі для выключна беларускіх перадач. У гэты час спрэс павінна гучаць беларуская мова, а калі хтосьці з запрошаных у студыю дзяржаўных асобаў, незалежна ад службовага рангу ці грамадска-палітычных дзеячаў, прадстаўнікоў інтэлектуальных колаў грамадства, не валодае альбо паводле якіх-небудзь палітычных матываў ігнаруе моваі тытульнай нацыі, іх выступленні ў абавязковым парадку павінны ісці ў перакладзе на гэтую мову. Так практыкуецца ва ўсім цывілізаваным свеце, і Беларусь не мае права адступаць ад гэтага разумнага правіла.

Даўно наспеў час рашуча адмовіцца ад абрыдлых беларуска-рускамоўных тэледыялогаў, якія не садзейнічаюць павышэнню моўнай культуры ні журналістаў, ні запрошаных у студыю асобаў. У час перадач яны супольна ствараюць проста класічную беларуска-рускую моўную трасянку, у адукаваных людзей вушы вянуць ад усяго пачутага. Зразумела, такая практыка найбольшую шкоду прычыняе беларускай мове, бо найчасцей менавіта яе карыстальнік пачынае збівацца і ўжываць рускія словы і выразы. Далей гэтую недарэчную непісьменнасць у тэлеэфіры нельга трываць ні на ТБ-1, ні на запланаваным да ўводу ў эксплуатацыю ТБ-2.

Зараз у краіне дастаткова буйных спецыялістаў-філолагаў, гісторыкаў, якія маглі б перакануча давесці тэлегледачам пра выключна важную ролю роднай мовы ў развіцці кожнага этнасу, выкрыць прычыны заняпаду і вызначыць шляхі адраджэння беларускай мовы, надання ёй рэальнага статусу дзяржаўнай. Дужа сорамна, што мы, беларусы, з такой багатай гісторыяй і культурай, стаўшы дзяржаўнай нацыяй, прычым у краіне, якая знаходзіцца ў цэнтры Еўропы, ніяк не можам справіцца з адраджэннем сваёй роднай мовы, працягваем спакойна жыць у палоне русіфікацыі, не жадаючы зразумець, што гэта не прыносіць карысці ні нам, ні рускім, ні славянскай супольнасці народаў, ні сусветнай цывілізацыі.

Леанід ЛЫЧ, доктар гістарычных навук, прафесар.

Ад беларускага патрыёта: **Доктар Леанід! Брава! І яшчэ раз Брава!!!**

*********************************************

КУРС ДОЛАРА



 



# Янка-спадар...

Двухтомнік працаў Янкі Станкевіча, які нядаўна пабачыў сьвет, абудзіў вялікую цікавасьць да асобы гэтага беларускага мовазнаўцы і да ягоных твораў. Кніга імкліва прабіваецца ў сьпіс беларускіх бэстсэлераў: прадаўцы менскіх кнігарняў кажуць, што распрадаецца збор твораў вельмі хутка. Рэдактар двухтомніка Валеры Булгакаў зазначае, што за тры тыдні прадалося каля 300 асобнікаў. Адным зь першых пакупнікоў кнігі, паводле неафіцыйнай інфармацыі, быў Аляксандар Фядута.

Пра Янку Станкевіча расказвае навуковы кансультант зборy твораў **Юрась Бушлякоў:** "Станкевіч — маштабная фігура ў беларускім руху XX ст., сымбаль і галоўны ідэоляг беларускага моўнага пурызму. Ён пражыў 85 гадоў і доўгую частку свайго жыцьця (год 60) аддаў дасьледаваньню беларускай мовы. Станкевіча можна параўнаць з такімі выдатнымі дзеячамі ў гісторыі станаўленьня літаратурных моваў, як Ёсаф Добраўскі ў Чэхіі ці Вук Караджыч у Сэрбіі".

**"НН": У чым сутнасьць Станкевічавага погляду на мову?**

**Ю.Б.:** Станкевіч імкнуўся "вывесьці ў сьвет" найдрабнейшыя адметы жывой народнай мовы. Пры магчымасьці выбару ён аддаваў перавагу словам і канструкцыям, адсутным у блізкароднасных мовах. Ён даваў шанец праявіцца ў літаратурным ужытку шматлікім фанэтычным зьявам, граматычным формам, сотням словаў, не засвоеных беларускай пісьмовай традыцыяй. Так, ён адстойваў формы зь цьвёрдым **[л]** перад суфіксамі **-ц-**, **-ств-** і **-к-** (*колца, салца, палцы, круцелства, прыяцелка, зашпілка*) і крытыкаваў Тарашкевіча за ігнараваньне іх у "Беларускай граматыцы". Папаўняў лексычны фонд мовы, прапануючы варыянты нават для найбольш частотных словаў (*пераз* 'праз', *бодка* 'пункт, кропка', *жарало* 'крыніца', *кулёк* 'куртка', *супар* 'супернік', *укульміцца* 'засяродзіцца' і г.д.).

І ўсё ж Станкевічаў пурызм нельга прызнаць за максымальны. Дасьледчык ня вёў, як пурысты вугорскія, ісьляндзкія ці іранскія, барацьбы з агульнаўжывальнымі інтэрнацыяналізмамі, дапускаў і сам уводзіў паасобныя калькі. Калькуючы, найчасьцей браў за ўзор словы з заходнеславянскіх моваў (так зьявіліся, да прыкладу, *самагук* 'галосны', *сугук* 'зычны', *паранец* 'сасіска', *даймо* 'ўражаньне' і *паймо* 'панятак').

За сваё доўгае жыцьцё Станкевіч здолеў сёе-тое прышчапіць беларускай мове. Прыкладам, ягонымі стараньнямі нормаю новаклясычнага правапісу стала з 1930-х пазначэньне мяккасьці ў прыназоўніках на -з перад мяккімі зычнымі: *зь неба, бязь месца, празь яго*. Шмат якія папулярызаваныя ім словы ўвайшлі ў лексычны фонд літаратурнай мовы ў міжваеннай Заходняй Беларусі, ужываліся рэгулярна ў мове паваеннай эміграцыі, нарэшце, апошнія 10—15 гадоў памалу замацоўваюцца ў мове мэтраполіі (*меншыня, гаспадарства, задзіночаньне, зацемка, конадзень, собскі* і г.д.).

**"НН": У 30-я Станкевіча ў беларускім друку часьцяком называлі "Янка-спадар". Вядома, што менавіта Станкевіч увёў слова *спадар* у карыстаньне...**

**Ю.Б.:** Пошукі формы ветлага звароту актыўна вяліся ў нас у першай траціне XX ст. Былі *пан* і *пані*, але за імі ішло "клясавае" значэньне. Маглі прэтэндаваць на ўнівэрсальны статус і *васпан* з *васпаняй*, і *ягомасьць* або *ягамосьць*, але не займелі шырокай падтрымкі. Бяз выніку засталіся й спробы эсэраў унівэрсалізаваць формы *грамадзянін* і *грамадзянка*. Саветы прыладзілі былі пад дыстанцыйны зварот даўняе слова *таварыш* — праз гэта ў БССР пашырэньне нейкай з гістарычных нацыянальных формаў сталася немагчымае. У 1920-я ў Заходняй Беларусі была яшчэ тэндэнцыя ажыўляць у ролі звароту слова *гаспадар*. Вацлаў Ластоўскі схіляўся да *гаспадара*, дапускаючы, праўда, пры гэтым і форму *спадар*. Станкевіч зрабіў адназначную стаўку на *спадара, спадарыню, спадарычну* ды *спадарства*. З 1925 г. узяўся ён папулярызаваць *спадара* — апрабоўваў зварот у прыватным ліставаньні, з тым самым Ластоўскім. Адначасна вывучаў факты ўжываньня зваротаў у старабеларускай мове, спрабаваў разьмежаваць значэньні словаў *гаспадар* і *спадар*. Заходнебеларуская публіка першым часам не прыняла *спадара*. Станкевіч умеў стаяць на сваім — так і нажыў сабе мянушку. Максім Танк прыпамінаў у "Лістках календара", як у 1930-я гады ў Вільні сустракаўся з Станкевічам. У Танкавым тэксьце таксама ёсьць гэтае "Янка-спадар"... Але да канца 1930-х слова *спадар* пачало ўспрымацца ў Заходняй Беларусі як нешта магчымае для агульнанацыянальнага ўжытку. У 1940-я ў несавецкай маўленчай, пісьмовай практыцы *спадар, спадарыня, спадарства* прыняліся.

**"НН": У чым яшчэ значнасьць Станкевіча як філёляга?**

**Ю.Б.:** Ён аспрэчваў культываваны ў СССР тэзыс пра зыходнае дыялектавае адзінства ўсходніх славянаў, казаў пра выдзяленьне беларускай мовы беспасярэдне з праславянскае. Каштоўныя ягоныя працы зь лінгвагеаграфіі — дасьледаваньні межаў беларускай моўнай прасторы. Адным зь першых у XX ст. узяўся Станкевіч вывучаць мову кітабаў — расшыфраваў і адкамэнтаваў "Аль-Кітаб" XVII ст., знойдзены Іванам Луцкевічам паблізу Вільні. Станкевіч арыгінальна інтэрпрэтаваў нашыя антрапонімы. "Хрышчоныя імёны вялікалітоўскія (беларускія)" — яго найважнейшая праца ў гэтай галіне. Нястомны ён быў таксама лексыкограф — пачынаў у гэтай дзялянцы, дапамагаючы Максіму Гарэцкаму рыхтаваць да друку



"Невялічкі беларуска-маскоўскі слоўнік". А як не сказаць, што Станкевіч — найпатрабавальнейшы аналітык айчыннай моватворчасьці XX ст.: надзвычай цікавая, прыкладам, ягоная рэцэнзія на граматыку Тарашкевіча.

Паводле маіх падлікаў, ён — аўтар каля 40 кніжных выданьняў і звыш 100 артыкулаў. Умовы, у якіх Станкевічу давялося жыць і працаваць, найчасьцей скіроўвалі яго на папулярызацыйную дарогу. Найважнейшае было — папулярызаваць беларускі матэрыял. І ён рабіў гэта ўтрапёна.

**"НН": Якім чынам ішла тая папулярызацыя?**

**Ю.Б.:** Праз артыкулы ў газэтах, праз даступныя і шкаляру, і работніку, выдаваныя часта за свае грошы брашуркі, праз "зборкі дзеля чысьціні беларускае мовы", якія Станкевіч вёў у 1930-х у Вільні, а ў 1950-х — у Нью-Ёрку.

У 1918 г. на бачынах віленскага "Гоману" ён заклікаў суайчыньнікаў культываваць беларускія формы тапонімаў, гідронімаў, пісаць *Менск, Горадня, Слуцак, Нёман*, унікаючы формаў каляніяльнага часу. Каб не Станкевіч, няведама, колькі б яшчэ трымаўся *Мінск* у тагачасных беларускіх выданьнях...

Папулярызацыйная Станкевічава практыка працягвалася і ў часопісе "Родная мова", які выдаваўся ў 1930—31 г. у Вільні. Гэта было першае беларускае спэцыялізаванае мовазнаўчае выданьне, аўтарскі праект Янкі Станкевіча. Аўтар жменямі падаваў у часопісным "Слоўнічку" сьвежыя словы, абгрунтоўваў іх правы на шырэйшы ўжытак.

У эміграцыйную пару добрую магчымасьць папулярызаваць новыя формы й словы Станкевіч меў дзякуючы "Кутку мовы" ў мюнхенскім тыднёвіку "Бацькаўшчына". Янку спрыяў ягоны пляменьнік Станіслаў Станкевіч, рэдактар "Бацькаўшчыны".

**"НН": Як на эміграцыі ўспрымалася моватворчая дзейнасьць Станкевіча?**

**Ю.Б.:** Па-рознаму. У яго былі як адкрытыя прыхільнікі, так і непрыяцелі. Нярэдка яму пярэчылі, былі выпадкі, калі папросту ігнаравалі, ён жа вёў справу свайго жыцьця так, як лічыў гэта патрэбным. У 1970-м, маючы пад 80 гадоў, кінуў кліч аб стварэньні на эміграцыі мовазнаўчага часопісу. Кліч застаўся без адказу. А праз тры гады пасьля гэтага Станкевіч сам вярнуў да жыцьця выдаваную ў 50-х "Веду" — каб быў-такі часопіс пра мову. Палемізавалі зь ім публічна Юрка Віцьбіч, Масей Сяднёў, Леанід Галяк. Далёка не заўсёды салідарызаваўся з Станкевічам Антон Адамовіч, хоць моватворчыя канцэпцыі іхныя былі вельмі блізкія. Вітаўт Кіпель у кнізе "Беларусы ў ЗША" прызнаў, што яны абодва, Станкевіч і Адамовіч, зрабілі найбольшы ўплыў на ўстанаўленьне нормаў мовы эміграцыйнага друку. Прыкметная ўвага была і з боку ўкраінцаў. Станкевіча ня раз рэцэнзаваў прафэсар Панцеляймон Кавалёў. Зрабіў нават агляд выдадзенага ў Рэгенсбурзе ў 1947 г. "Падручніка крывіцкае (беларускае) мовы". У тым падручніку — рэглямэнтаваныя Станкевічам нормы паводле стану на 1947 г.

**"НН": А чым адметны ягоны пераклад Сьвятога Пісьма?**

**Ю.Б.:** Станкевічава "Сьвятая Бібля" — першы поўны беларускі тэкст Бібліі ў XX ст., перакладзены ім разам з пастарам Масеем Гітлінам. У тэксьце вельмі актыўна выкарыстаная старабеларуская і рэгіянальная лексыка. Найперш за лексыку і крытыкавалі пераклад у эміграцыйным грамадзтве. Асабліва гнеўна — архімандрыт Леў Гарошка. Затое, кажуць, Станкевічаву "Біблю" любіў Уладзімер Караткевіч: яго якраз цешылі тыя адметныя беларускія формы.

**Размаўляў Адам Воршыч**

# Камунізацыя

Усё нашае жыцьцё засьмечанае савецкімі штампамі. Назвы вуліцаў, калгасаў, газэтаў — усё гэта адтуль. Пасьля ўнівэрсытэту настаўнічаў я ў Лельчыцкім раёне, дзе быў калгас зь дзіўнаю назваю "Чырвоны памежнік". Чаму не "пагранічнік"? Падумаўшы, я зразумеў, што быў ён утвораны каля мяжы з Заходняй Беларусяй яшчэ за часам беларусізацыі. Ужо 63 гады, як мяжа адышла далёка на захад, і слова "памежнік" ажывіла новае пакаленьне нацдэмаў, а той "Чырвоны памежнік", мабыць, яшчэ паціху канае.

Камунізацыя ў нас заўсёды была зьвязаная з русіфікацыяй. Мала ў Беларусі было сваіх камуністычных памятак, таму шмат якія вобразы цягнулі з усходу. Сядзіць на лавачцы каля Сьвіслачы заснавальнік сацрэалізму Максім Горкі, глядзіць, як з раніцы народ бегае крос, а ўдзень п'е піва. І што з тым помнікам рабіць? Як жартаваў мой сябра, найтаньней было б памяняць яму галаву на галаву Максіма Гарэцкага. Вопратка па часе падыходзіць, адно што трэба было б у прозьвішчы адну літару зьмяніць ды дзьве дадаць.

Ва Ўкраіне, у Львове, паставілі новы конны помнік Уладзімеру Сьвятому. Яшчэ медзь на ім не набрала высакароднай патыны, і князь Уладзімер блішчыць як навюткі талер. Мне распавялі, што раней на медным кані сядзеў савецкі палкаводзец Шчорс, але яго зьнялі, паставілі раскірэкам у закінутым двары, а на каня пасадзілі Уладзімера... У Львове да савецкіх сьвятыняў ставяцца з гумарам. Так, на старой аптэцы, якую калісь наведваў Ленін, савецкую шыльду замянілі на новую, навукова ўдакладнёўшы, што правадыр сусьветнага пралетарыяту лячыўся тут ад францаў.

Сьветлагорск — горад майго юнацтва. Як тлумачыць Жучкевіч у "Кароткім тапанімічным слоўніку Беларусі", гэтая "назва сымбалізуе сьветлае жыцьцё новага Палесься". Пры ўезьдзе ў горад раней вас сустракаў лёзунг "Сьветлагорск — горад сьветлай камуністычнай будучыні". У Савецкім Саюзе было аж тры Сьветлагорскі: на матэрыковай Расеі, у Калінінградзкім анкляве і ў нас. Беларускі Сьветлагорск зваўся раней Шацілкамі, але гэтая назва здалася нашым "панямонскім" камуністам немілагучнай. Пабудаваць камунізм у асобным горадзе не ўдалося, і цяпер гэты горад — беларуская сталіца наркаманіі і СНІДу, своеасаблівы "помнік" камуністычных дасягненьняў. А чыгуначную станцыю яшчэ гадоў зь дзесяць не пераназывалі. І толькі потым яна стала зваца "Сьветлагорск-на-Бярэзіне", мабыць, каб можна было адрозьніць ад іншых савецкіх Сьветлагорскаў, а пасьля развалу СССР — проста "Сьветлагорск".

Чыгуначныя станцыі адчайна бараніліся ад саветызацыі. Таму да нашага часу дайшлі такія назвы, як станцыя "Янаў-Палескі" ў горадзе Іванава на Берасьцейшчыне і знакамітая дзякуючы Адаму Глёбусу і гурту "Бонда" станцыя "Койданава" ў Дзяржынску.

Дзяржынскі, дарэчы, — адзін зь нямногіх камуністаў, які меў дачыненьне да Беларусі. Адзін мой знаёмы нядаўна даводзіў палякам на сэмінары: "І зь Міцкевічам мы яшчэ можам пагадзіцца, што ён — супольны, і з Касьцюшкам, Манюшкам. А вось Дзяржынскага мы вам не аддамо. Гэта наш беларускі Дракула. Прыйдзе час — зробім у Івянецкім музэі экспазыцыю: камэра з цэмэнтавай падлогай, залітая крывёю, і Фэлікс, які з асалодаю страляе сваіх ахвяраў. А яшчэ — кампазыцыю з васковых фігураў пад назваю "Малады Фэлікс забівае са стрэльбы сваю сястру", і будзем туды замежных турыстаў вазіць, паказваць"...

**Алесь Бяляцкі** (Н.Н.)

************************************************

# З усіх старон

## NATO справа, NATO зьлева

*Украіна ставіць Захад перад фактам*

**"Сэнсацыя! Сэнсацыя! Сэнсацыя! — чулася ў мінулы чацьвер з усіх украінскіх тэлеканалаў. — Украіна вырашыла ўступаць у *NATO!*" Пакуль гаворка ідзе не пра падачу заявы ў Паўночнаатлянтычны альянс. Як паведаміў сакратар Рады нацыянальнай бясьпекі і абароны Ўкраіны (РНБАЎ) Яўген Марчук, на пасяджэньні РНБАЎ пад старшынствам Леаніда Кучмы было вырашана, што Ўкраіна пачынае працэс, канчатковая мэта якога — уступленьне краіны ў *NATO*. Прэзыдэнт назваў рашэньне "лёсаносным", а сябры РНБАЎ (яны прагаласавалі аднагалосна) — "гістарычным".**

Мала хто ва Ўкраіне верыў, што такое рашэньне будзе прынята пры цяперашнім прэзыдэнту. Тэрмін "эўраатлянтычная інтэграцыя" знаходзіўся пад неафіцыйнай забаронай, высокапастаўленыя прыхільнікі ўступленьня Ўкраіны ў *NATO* пазбаўляліся сваіх пасад. Але Леанід Кучма неабходную палітычную волю ўрэшце праявіў.

Сакратар РНБАЎ Я.Марчук заявіў, што "далейшае захаваньне палітыкі пазаблёкавасьці ці нэўтралітэту зьяўляецца беспэрспэктыўным", а "ў шэрагу выпадкаў яна можа быць нават шкоднай". Гаворачы пра магчымыя тэрміны ўступленьня Ўкраіны ў *NATO*, ён назваў лічбы 5—10 год...

 

# Пакаленні вояў пешных...

**У адной з хат на захадзе Віцебшчыны. На сцяне па даўняй завядзёнцы фотаздымкі. У рамачцы, пад шклом. Прыглядаюся. Сярод здымкаў звычных - пахавальных, хрэсьбінных, вясельных бачу і адметныя: чатыры здымачкі вайскоўцаў. Адзін ужо зусім пажаўцелы, на ім салдат у вопратцы яўна царскіх часоў. На другім менш пажаўцелым - таксама вайсковец, але ўжо ў форме польскага жаўнера. Трэці здымак яўна пазнейшы па часе. Тут салдацік у вопратцы савецкай, пасляваеннай. На чацвёртым, каляровым здымку ружавашчокі хлапчына ў камуфляжнай форме.**

Як жа гэтым не зацікавіцца? Бабуля, гаспадыня хаты, ахвотна тлумачыць, што ўсе гэтыя вайскоўцы - Вырвічы, іх сямейнікі ў розныя часы. Тут ужо цікавасць стала яшчэ большай. А хто ж тады канкрэтна хто? Фотаздымак першы. Юзаф, год нараджэння 1894. Ён, уласна кажучы, і будаваў некалі гэту хату. А ў царскую армію трапіў у 1914, якраз на першую сусветную вайну. Пехацінец, акопнік праз усе яе гады, хапануў нямецкіх газаў. У рэвалюцыю 17-га апынуўся ў Петраградзе. Але іх полк не ахапілі прапагандай ні тыя, ні тыя. Адбілі сілаю цягнік -- і на Беларусь, мірнага жыцця захацелі. Родныя казалі, быў недзе крыжык ад цара. Ну, а пенсія - - якая ж пенсія, калі цара таго скінулі.

Фотаздымак другі. Генрых, які нарадзіўся ўжо ў новай, яшчэ недабудаванай хаце ў 1919 годзе. Другую сусветную вайну сустрэў у 1939 годзе шараговым пехацінцам у польскай арміі. Ваяваў супраць немцаў у Памор'і. Палон. Пашчасціла трапіць на радзіму, калі бальшавікі і фашысты абменьваліся палоннымі. Тыя бальшавікам беларусаў, бальшавікі ім палякаў. Зразумела, радавых. Афіцэраў чакаў іншы лёс. У 1944 зноў забралі на вайну, цяпер ужо ў Войска Польскае. За Варшаваю цяжка паранены. Інвалід. Некалькі гадоў перад смерцю атрымліваў у дадатак да савецкай пенсію з Польшчы.

Фотаздымак трэці. Казімір нарадзіўся ў ваенны час, у 43-м. Якраз бацька пазбегнуўшы палону вярнуўся дадому, займаўся сельскай гаспадаркай. Але ж жыццё бярэ сваё. Так і зьявіўся Казік. Добра, бацька пабачыў яго перад адыходам на фронт у 44-м. Казіміра паклікалі ўжо ў трэцюю армію, савецкую ў 1962-м. Служыў у пяхоце ў Расіі тры гады. У элітныя войскі тады заходнебеларусаў бралі неахвотна.

Фотаздымак чацвёрты. Казімір доўга пасля службы ў войску не жаніўся. Сын у яго зьявіўся толькі ў трыццаць адзін год. Назвалі ў гонар дзядулі таксама Генрыхам. І вось гэтага, другога Генрыха паклікалі да службы ў войску ўжо ў 1992-м. У беларускую армію. Служыў пад Мінскам, у пяхоце.

Вось так, чатыры прадстаўнікі пакаленняў беларускіх сялян, ад прадзядулі да праўнука, па часе недзе за 80 гадоў, а служылі ў абсалютна розных арміях. І на працягу гісторыі арміі гэтыя між сабою нават ваявалі. Царская (белагвардзейская) ды з савецкай, савецкая ды з польскай.

Але ж можна заглянуць і крыху глыбей у гісторыю. Па сямейнай легендзе бацька Юзафа, імя яго ў сям'і ўжо не памятаюць, у паўстанне 1963-га года трапіў у паўстанцкі атрад, які змагаўся супраць царызму. Не шляхцюк, каня ды добрай зброі не атрымаў. Быў пехацінцам. За што потым і трапіў пад казацкую нагайку.

Але ж можна заглянуць і наперад. У Генрыха-другога, як сказалі б у Еўропе, гадуецца сын. У якой арміі будзе служыць ён? У беларускай? У рускай, калі мы дойдзем да такога стану аб'яднання з Расіяй. Ці ў якой-небудзь іншай, бо час такі хуткацечны, такі вірлівы -- час крутых пераменаў.

А ўвогуле такі быў лёс нашага народа, што нават сын і бацька не маглі паслужыць у адной і той жа арміі. Што землі нашы на працягу недзе двух апошніх стагоддзяў дзяліліся і перакройваліся столькі разоў і ў такіх дыяметральна супрацьлеглых напрамках. Асабліва гэтым вызначылася мінулае, дваццатае стагоддзе. Што там. Возьмем апошнюю вайну. Мае родныя заходнебеларускія мясціны, якія сёння прылягаюць да суверэннай Літвы. Ведаеце, колькі ў гэтых мясцінах, асабліва пад канец вайны, годзе гэтак у 1944-м, адначасова існавала збройных уладаў, кожная з якіх лічыла, што менавіта яна галоўная. А давайце палічым. Немцы-акупанты. Яны прэтэндавалі на гэтыя землі, назваўшы іх сваімі па праву... па праву моцы і зброі. Савецкія партызаны. Яны прыйшлі ў гэтыя лясы змагацца з немцамі і астатнімі за гэтыя абшары па праву таго, што далучылі іх да сябе ў 1939 годзе ў адпаведнасці з пактам Молатава-Рыбентропа.

Армія Краёва. Так званыя акаўцы, польскія партызанскія атрады змагаліся тут супраць немцаў, а найперш супраць саветаў за землі, якія яны лічылі сваімі, бо валодалі імі з 1921-га па 1939 гады па рыжскай дамове з тымі ж саветамі.

Літоўцы. І гэтыя атрады гаспадарылі ў нашых мясцінах. Бо немцы, захапіўшы заходнія раёны былога СССР, адарвалі ад Беларусі кавалак і аддалі яго Літве. Так што частка майго роднага, Пастаўскага раёну пад час вайны лічылася Літвою. І беларусаў, якіх прымусова выганялі на працу ў Нямеччыну, там лічылі за літоўцаў. Што, дарэчы, давала нейкую палёгку.

Зялёныя. Былі яшчэ і нешматлікія польскія партызаны, якія падпарадкоўваліся савецкаму камандаванню, а потым камандванню Войска Польскага, якое змагалася на баку СССР.

Але і гэта яшчэ не ўсё. Былі яшчэ і беларускія калабаранты, як іх да нядаўніх часоў называлі. Людзі, якія вірункі вайны, супроцьстаянне дзвюх імперый імкнуліся выкарыстаць для справы адраджэння ўласнай, беларускай дзяржавы. На пачатку вайны яны супрацоўнічалі з немцамі больш у гуманітарным плане. Але ў канцы вайны мелі зброю таксама. Нарэшце, былі і такія, хто браў у рукі зброю і ішоў у лес, каб проста парабаваць.

І ўсе гэтыя атрады і групоўкі, груповачкі дзейнічалі адначасова, на адной тэрыторыі. І ўсё гэта на бедныя, знявечаныя вайной беларускія вёскі. На народ, які часта ўжо і сам не разумеў: хто ён такі і да якой дзяржавы сябе павінен адносіць. Кроў лілася з усіх бакоў. Але найбольш крыві пралівў беларускі селянін. Яго не толькі забіралі ў свае шэрагі тыя ці іншыя. Яго нішчылі ў час карных аперацый. Яго стралялі за дапамогу, вымушаную, той ці іншай сілы. Яго проста забівалі ад таго, што зброя мае ўласцівасць страляць.

Некалі нашы суседзі па адной дзяржаве, а цяпер суседзі па адной Еўропе палякі назвалі час наступу на іх крыжакаў і туркаў Патопам. Час другой сусветнай вайны для беларусаў інакш як Крывавым Патопам не назавеш. І не кожны чацвёрты загінуў на нашай зямлі. Далёка не кожны чацвёрты...

**Алесь Касцень** (Вольнае Глыбокае)

# Яны засталіся пад Монтэ-Касіна

**Нядаўна даведаўся, што няма ўжо сярод жыхароў Бярозаўкі Аляксандра Яцука, ветэрана Другой сусветнай вайны. Гэта быў адзін з апошніх удзельнікаў бітвы пад Монтэ-Касіна на Гродзеншчыне і ў Беларусі. Сціпла жыў гэты мужны чалавек, абдзелены не толькі гонарам, але і простай увагай. Прыгадваю размову з былым салдатам, а потым з яго жонкай Антанінай, што адбылася год назад.**

У цяжкім стане сустракаў А. Яцук мінулагодні Дзень Перамогі. Таму гаварыў са мною нядоўга. Яго ж бедная Антаніна далікатна заікнулася аб сімвалічнай дапамозе хвораму. «Хоць бы хто выдзеліў бышчай ва ўжыванні тканіны ды марлі» – сказала яна. Мясцовая ўлада ў сувязі са святам выдала невялікую суму грошай. А скарыстаных трантаў не знайшлося ні ў бальніцы, ні ў грамадскіх арганізацыях.

Праўда, у 1994 годзе Аляксандр на момант адчуў гонар і радасць. Разам з горыччу. Тады польскае пасольства ў Мінску запрасіла ветэрана здзейсніць паездку ў Італію, дзе адзначылі пазней 50-годдзе бітвы пад Монтэ-Касіна. Але ў дарогу чалавека не пусціла цяжкая хвароба. Помню, мой цёзка, трымаючы ў руках тое запрашэнне, раптам адклаў паперу і бездапаможна развёў рукамі. І нечакана для мяне сказаў: «Мо напісаць у пасольства, магчыма, яны ахвяравання на дарогу грошы прыслалі б мне». Я пацiснуў плячыма і выказаў меркаванне, што наўрад ці трэба ісці на такі крок... Даўнейшы факт гаворыць перш за ўсё пра бядотны матэрыяльны стан бальшасці ўдзельнікаў сусветнай вайны ў нашай краіне. Гонар і горыч, на жаль, іх спадарожнікі. Прычым, апошняе пачуццё пераважае і прыгнятае першае.

А зараз пра лёс іншага героя бітвы ў далёкай Італіі – лідчаніна Бернарда Чарнавуса. Яго сын Генрых быў маленькім хлапчуком, калі татку забралі на вайну. Сталася гэта напачатку верасня 1939 года. Ішлі першыя дні Другой сусветнай. У Лідзе аб'явілі мабілізацыю рэзервістаў, і неўзабаве Бернард апынуўся на нямецка-польскім фронце. Па сведчанню аднапалчан, наш зямляк мужна змагаўся з фашыстамі пад Львовам. З уступленнем у вайну СССР Б.Чарнавуса інтэрнавалі часці Чырвонай Арміі і вывезлі ў Расію. Адтуль ён пісаў лісты жонцы і дзецям, у якіх выказваў спадзяванне на хуткае вяртанне дамоў.

Аднак спадзяванням салдата не суджана было збыцца. Раптам выбухнула Вялікая айчынная вайна. Праз некаторы час Бернард трапіў у сфарміраваную ў СССР польскую армію генерала Андэрса. А закончыў свой франтавы шлях далёка ад лідскай зямлі – аж у гарах Італіі. Аб лёсе мужа і бацькі Чарнавусы атрымалі толькі скупыя звесткі праз некалькі гадоў пасля пераможнага мая 45-га. З Польшчы ў Ліду напісаў ветэран, які разам служыў з Бернардам і таксама ўдзельнічаў у бітве пад Монтэ-Касіна. У час штурму гэтай крэпасці лідчанін атрымаў цяжкае раненне і па дарозе ў шпіталь памёр. Пазней падобнае паведамленне Чарнавусам прыйшло з Англіі.

Монтэ-Касіна. На жаль, нямногія ў нашай Беларусі чулі і ведаюць пра штурм гэтай крэпасці. Савецкая гістарычная навука замоўчвала падобныя факты, хоць у гэтай бітве ўдзельнічалі сотні нашых землякоў. Аб значэнні гэтай бітвы можна меркаваць па тым, што згаданае ўмацаванне кантралявала аўтадарогу Неапаль-Рым і блакавала прасоўванне саюзніцкіх войскаў на поўнач Італіі. Дарэчы, саюзнікі ў студзені-сакавіку 1944 года тройчы безвынікова спрабавалі авалодаць крэпасцю. А ў маі на штурм пайшлі воіны II корпуса генерала Андэрса. Жорсткія кровапралітныя баі скончыліся толькі на восьмы дзень – 18 мая. Страты жаўнераў у рагатыўках, сярод якіх побач з палякамі было нямала беларусаў і украінцаў, склалі каля 4000 чалавек (разам з паранеными і без вестак прапаўшымі). Такім быў цяжкі і бязлітасны рахунак толькі адной бітвы, у якой удзельнічалі нашы землякі. Зрэшты, многія з іх знайшлі на скалістым узгор'і Італіі свой вечны спачынак.

Згадаем пра цяжкія шляхі-дарогі іншых герояў Монта-Касіна. З лідскай вёскі Эйтуны напярэдадні Вялікай Айчыннай мабілізавалі ў Чырвоную армію Канстанціна Астрэйку. Служыў пад Масквою, адтуль дасылаў лісты і фатакартку, удзельнічаў у баях за абарону Масквы. Цяжка сказаць, чаму чырвонаармеец-беларус апынуўся потым у польскім корпусе. Фактам застаецца тое, што К.Астрэйка прайшоў ваеннымі пуцявінамі разам з польскімі жаўнерамі нямала краін і скончыў свой шлях пад Монта-Касіна. А сваякі больш чым паўстагоддзя фактычна нічога не ведалі пра лёс роднага чалавека.

А вось іншы прыклад. Аркадзь Барысевіч з вёскі Новая Жыжма Іўеўскага раёну, як і лідчанін Бернард Чарнавус, ваяваў з фашыстамі ў верасні 1939 года пад Львовам. Затым савецкі палон, армія Андэрса, Монта-Касіна і смерць на чужой зямлі. І зноўжа шматгадовая невядомасць пра лёс чалавека.

Той жа восенню 39-га пакінуў сваю сям'ю на хутары Міхайлаўка былога Радуньскага раёну і пайшоў на германа-польскую вайну Антон Хваініцкі. Пасля разгрому Польшчы салдат-рэзервіст апынуўся пад Калугай. Затым корпус Андэрса, быў санітарам. Пад Монта-Касіна Антон, неаднойчы рызыкуючы сваім жыццём, выратаваў нямала жаўнераў. Па словах сведкі-земляка, у час жорсткай контратакі немцаў Хваініцкі рушыў на ворага. Неўзабаве побач з санітарам разарвалася міна, яму адарвала ногі. У жахлівых муках салдат з-пад Васілішак памёр на полі бою.

А людзям крыўдна...

Толькі ў другой палове 90-х гадоў некаторыя беларускія выданні змясцілі спісы землякоў, якія навечна засталіся ў далёкай краіне на Апенінах. Родныя, калі што-небудзь і ведалі пра лёс загінуўшых, то баяліся аб гэтым казаць услых. Яшчэ ў 50-я гады прыналежнасць да сям'і былога жаўнера-андэрсаўца магла наклікаць бяду – за гэта атрымлівалі тэрмін са ссылкай у Сібір. Але ў чым была віна тых загінуўшых жаўнераў? У тым, што яны змагаліся за сваю радзіму, абараняючы яе ад ворага? Дарэчы, малодшы сын Бернарда Чарнавуса – Генрых, служыў у Савецкай арміі. Крыўдна людзям, што многія ў былым Саюзе лічылі салдат польскага корпуса Андэрса, загінуўшых і жывых, амаль што ворагамі краіны Саветаў. А за што? Цяжка адказаць...

Сыноўскі абавязак кліча нашчадкаў у далёкую Італію пакланіцца магілам бацькоў, завесці туды жменьку роднай зямлі. Але за якія грошы сёння беларус можа паехаць на Апеніны. Нерэальна гэта сёння як самім франтавікам, так іх дзецям і ўнукам.

Шмат пакут і гора ад тае вайны і не менш пытанняў. Хто сушчэшыць боль тых, хто за сваіх бацькоў і сваякоў разам з гонарам зведвае і горыч?

Аляксандр ЖАЛКОЎСКІ /Біржа інфар./

**********************************************

# У бой ідуць адны старыя

З Віцебшчыны для ўдзелу ў вучэннях "Бярэзіна-2002" прызвалі каля 700 запаснікаў, 200 з іх -- жыхары абласнога цэнтра. Даведаўшыся пра сцэнарый вучэнняў, гэтыя сталыя людзі ледзь утрымаліся ад смеху. Некаторыя афіцэры запасу атрымалі спецыяльнасць артылерыста падчас вучобы ў ВНУ і з тае пары не бачылі гармату. Цяпер ім прыйдзецца не толькі ўспомніць каманды, але і раз-другі стрэліць па ўяўным ворагу, які асмеліўся парушыць суверэнітэт нашай "Чырвонай рэспублікі" (так трапна назвалі Беларусь аўтары вучэнняў).

"Бярэзіна-2002" абыдзецца падаткаплацельшчыку ў немалую суму. Каб узняць патрыятычны дух рэзервістаў, ім на час вучэнняў захаваюць зарплату ды яшчэ выдадуць камандзіровачныя грошы. Салідныя, калі ўлічыць, што сярод мабілізаваных ёсць нават кіраўнікі прадпрыемстваў і чыноўнікі "вертыкалі", якім паабяцаны чарговы афіцэрскі чын пасля паспяховага выгнання "сініх" акупантаў з "Чырвонай рэспублікі".

Ці то сьмех, ці то жарты?..

**********************************************

# Чаму патрэбны Інстытут Беларусі

**Геаграфічнае становішча Беларусі -- на скрыжаванні рачных і сухапутных шляхоў на прасторы паміж Балтыйскім і Чорным морамі, Заходняй і Цэнтральнай Еўропай і прасторамі Еўразіі -- здаўна спрыяла развіццю яе сувязей са знешнім светам.**

**У XX стагоддзі, як вядома, краіна пачала актыўна далучацца да сусветнай сістэмы міжнародных адносін у якасці яе суб'екта, раўнапраўнага ўдзельніка. У канцы 90-х Рэспубліка Беларусь наладзіла дыпламатычныя адносіны больш чым з 130 дзяржавамі, у нас сталі зьяўляцца прадстаўніцтвы замежных дзяржаў і міжнародных арганізацый. Адкрывала свае прад- стаўніцтвы за мяжой і Беларусь (у канцы 90-х гадоў іх было больш за 40). Да таго ж Беларусь далучылася да вядучых міжнародных арганізацый. Апрача ААН, наша краіна стала членам Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе і цэнтральна-еўрапейскай ініцыятывы. У 90-х гадах сталі развівацца кантакты з ЕС, Саветам Еўропы, НАТО. Значная ўвага надавалася ўмацаванню сувязей з дзяржавамі Садружнасці Незалежных Дзяржаваў, сузаснавальнікам якой стала Беларусь у 1991 годзе. Развіваючы супрацоўніцтва з краінамі Азіі, Афрыкі і Лацінскай Амерыкі, Рэспубліка Беларусь зацікавілася магчымасцямі супрацоўніцтва з Рухам недалучэння, дзе адпаведныя краіны складалі пераважную большасць, і ў верасні 1998 г. стала паўнапраўным удзельнікам гэтага руху.**

**Такім чынам, у канцы мінулага стагоддзя Беларусь ужо паўнапраўны член звыш 20 міжнародных арганізацый (у т.л. Міжнароднага валютнага фонду, Сусветнага і Еўрапейскага банкаў рэканструкцыі і развіцця, шэрагу спецыялізаваных устаноў ААН) і больш чым у 10 мае статус назіральніка. Мы наладзілі гандлёва-эканамічныя сувязі больш чым з 150 дзяржавамі свету.**

**Аб'ектыўна ўваходжанне нашай краіны ў сусветную сістэму міжнародных адносін на правах яе самастойнага члена спрыяла распаўсюджванню інфармацыі пра Беларусь і беларусаў.**

**Разам з тым рэаліі сведчаць, што да сённяшняга дня наша дзяржава не змагла канчаткова і гарманічна інтэгравацца ў сістэму новых міжнародных адносін, заняць належнае месца ў сусветнай супольнасці.**

Дастаткова выехаць далей за Польшчу і пагаварыць з простым сустрэчным, каб пераканацца, што Беларусь (для нас -- з багатай гісторыяй і адмысловай культурай) па-ранейшаму застаецца ва ўспрыманні іншаземцаў зямлёй зусім невыразнай, нейкай белай плямай і ў лепшым выпадку асацыіруецца з Чарнобылем. Намаганні асобных дзеячаў культуры і беларускіх дыпламатаў мала што змянілі ў такім стане рэчаў. Нацыянальныя інтарэсы патрабуюць, каб на агульнадзяржаўным узроўні праводзілася мэтанакіраваная, сістэмная праца па папулярызацыі беларускай культуры за мяжой. Ні ў якім разе гэта не ёсць клопат толькі Міністэрства культуры, якое займаецца перш за ўсё культурай мастацкай і матэрыяльнай. Размова ідзе пра культуру ў шырокім яе разуменні, пра культуру як сукупнасць духоўнаментальных асаблівасцей Беларусі, якія пэўным чынам выяўляюцца і ў прафесійнай мастацкай культуры, і ў народнай творчасці, і ў адукацыйнай сістэме, і ў канфесійна-рэлігійным жыцці, і ў навукова-гуманітарнай сферы. У рэшце рэшт, адмысловасць і асаблівая місія кожнага народа і ўсякай нацыі -- у непаўторнасці яе культуры, праз якую мы можам сказаць сваё слова ўсяму свету і праз якую мы можам гэты свет узбагаціць. Усё астатняе -- эканоміка, ідэалогія, палітыка -- лягчэй падпарадкоўваецца ўніверсальным нормам і законам, цывілізацыйным стандартам. Каб быць эфектыўнымі, эканоміка, ідэалогія і палітыка мусяць грунтавацца на нацыянальна-культурных традыцыях, тых самых культурных асаблівасцях.

Калі дзяржаўнаму будаўніцтву далёка да завяршальнай стадыі, дык што, апрача культуры, можа скансалідаваць нацыю і аб'яднаць грамадства? І ці могуць нацыянальныя інтарэсы Беларусі не ўключаць беларускія нацыянальна-культурныя інтарэсы? Вядома, не. Развітыя краіны свету даўно зразумелі такую ўзаемазалежнасць. Нормай з'яўляецца дзейнасць нямецкага Інстытута Гётэ, іспанскага Інстытута Сервантэса, Польскага інстытута...

Добра было б, каб пры Міністэрстве замежных спраў Рэспублікі Беларусь дзейнічаў навуковы інстытут, асноўныя задачы якога б палягалі ў сферы папулярызацыі, пашырэння беларускай культуры за мяжой. Ідэальны варыянт тут -- Скарынаўскі цэнтр, які займаецца міждысцыплінарнымі даследаваннямі ў галіне беларускай культуры і беларускай гуманістыкі. За 10 гадоў сваёй дзейнасці Скарынаўскі цэнтр заваяваў міжнародны аўтарытэт як Інстытут Беларусі, які назапашвае, сістэматызуе і распаўсюджвае навуковыя веды пра Беларусь, яе культурна-гістарычную спадчыну, асабліва яе нацыянальнага развіцця як унутры краіны, праз асветніцкую дзейнасць, так і за мяжой. Скарынаўскі цэнтр выконвае функцыю народнай дыпламатыі, кансалідуе сучаснае беларускае грамадства, бо абапіраецца не на кан'юнктуру, сённяшнія палітычныя інтарэсы, а на вечную каштоўнасць беларускага народа -- яго духоўна-культурную спадчыну. Менавіта сваімі духоўна-культурнымі набыткамі наша нацыя, як і кожная іншая, апраўдвае сваё існаванне, і менавіта гэтымі набыткамі мы вылучаемся сярод іншых краін, і якраз гэтым ім цікавыя. Праўда, мы самі часта недастаткова добра ведаем сваю культуру, і таму ў нас слаба развіта пачуццё нацыянальнага гонару. Таму Цэнтр Скарыны актыўна працуе ў напрамку не толькі пашырэння грамадска-культурнага ўзаемадзеяння Беларусі з іншымі краінамі і народамі, але і папулярызацыі напрацовак беларусазнаўства сярод сучаснага беларускага грамадства.

Немалаважна, што Скарынаўскі цэнтр -- навуковая ўстанова, здольная пры пэўных умовах не проста ствараць інфармацыйную базу напрыклад, па беларускай дыяспары (гэтым дастаткова актыўна занялося зараз ЗБС "Бацькаўшчына"), а праводзіць навуковыя даследаванні, вынікі якіх могуць перарасці ў аналітычныя запіскі для міністэрстваў і ведамстваў, а таксама ў канкрэтныя рэкамендацыі для дзяржаўных органаў кіравання. Хіба не трэба нам ведаць, напрыклад, які стан дыяспары ў розных рэгіёнах і краінах, якая яе перспектыва? Хіба Беларусь можа дазволіць сабе бясконца быць "раскіданым гняздом", не збіраючы сваіх дзяцей, што разляцеліся па ўсім свеце? Незалежна ад іх поглядаў і меркаванняў, усе яны -- нашы, і дзяржава не павінна падзяляць дыяспару на "сваю" і "чужую". Такія выпадкі -- гэта якраз ненавуковы падыход, які невядома чым можа скончыцца.

Усялякая добрая практыка пачынаецца з тэорыі, навуковага аналізу. Практычная дзейнасць зьнешнепалітычнага ведамства -- не выключэнне. Знізу, ад непрадузятых навуковых напрацовак, што грунтуюцца не на камп'ютэрных ідэях, а на глыбокапрафесійным аналізе праблем і сітуацый, павінна зыходзіць асноўная канцэпцыя і практычных рашэнняў. Расія, дарэчы, гэта добра разумее. Там распрацоўкай праблем зьнешнепалітычнай дзейнасці яшчэ ў 90-х гадах займаліся ажно 14 навуковых інстытутаў, вынікі даследаванняў якіх былі запатрабаваны дзяржавай і грамадствам. І гэтыя напрацоўкі грунтуюцца, безумоўна, на нацыянальна-культурных традыцыях (не на беларускіх жа) і служаць нацыянальным інтарэсам.

У нейкім сэнсе Скарынаўскі цэнтр -- лакмусавая паперка развіцця беларускай дзяржаўнасці. Калі ёсць аб'ектыўная неабходнасць існавання незалежнай дзяржавы "Рэспубліка Беларусь", то такая ж неабходнасць вымагае і існавання Інстытута Беларусі, які не займаецца палітыкай, але ўмацоўвае базу існавання такіх феноменаў -- беларуская дзяржава, беларуская палітыка.

Што трэба, каб Беларусь па прыкладу іншых краін заімела свой інстытут? Не так фінансы, як здольнасць узняцца над вузкаведамаснымі інтарэсамі да ўзроўню дзяржаўнага мыслення.

Л. УЛАДЫКОЎСКАЯ-КАНАПЛЯНІК, А. ЦІХАМІРАЎ

## Ларыса ЯЗЫКОВІЧ: «Тыраж апошняга выдадзенага тома энцыклапедыі ў два разы меншы за тыражы першых тамоў»

У наступным годзе павінен выйсці ў свет апошні том «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі». Зараз працягваецца работа над універсальнай «Беларускай энцыклапедыяй», апошні том якой плануецца выдаць у 2004 годзе. Аб тым, як вядзецца работа над гэтымі выданнямі, з якімі цяжкасцямі сутыкаюцца іх стваральнікі, карэспандэнт «Звязды» гутарыць з загадчыкам рэдакцыі гісторыі Беларусі выдавецтва «Беларуская энцыклапедыя» Ларысай ЯЗЫКОВІЧ:

— Летась выйшлі 12-ы і 13-ы тамы «Беларускай энцыклапедыі», у якой усяго будзе 18 тамоў. Таксама ў верасні мінулага года была надрукавана першая частка 6-га тома «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі». Будзе яшчэ і другая частка, якую мы плануем выдаць у першым паўгоддзі 2003 года. Адзначу, што першапачаткова, калі мы толькі прыступалі да выпуску энцыклапедыі, мы не планавалі выпуску другой часткі. Аднак аказалася, што мы не ўкладваемся ў запланаваны аб'ём. У другую частку шостага тома ўвойдуць словы ад літары «у» да літары «я». Акрамя таго, будзе складзены дадатак. Туды ўвойдуць артыкулы, якія мы па розных прычынах не змясцілі своечасова ў энцыклапедыі.

Увогуле, выдавецтва «Беларуская энцыклапедыя» — гэта унікальнае выдавецтва на постсавецкай прасторы. Расіяне, літоўцы, украінцы зараз толькі ствараюць першыя тамы сваіх універсальных энцыклапедый. А шматтомная гістарычная энцыклапедыя з усіх краін СНД на сённяшні дзень ёсць толькі ў Беларусі...

**— Вы сказалі, што плануецца зрабіць дадатак да «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі». Што трапіць у яго?**

— Туды ўвойдуць новыя даныя пра некаторых Герояў Савецкага Саюза і поўных кавалераў Ордэна Славы. Таксама ў нас ёсць поўныя кавалеры Георгіеўскага крыжа. Матэрыялы пра гэтых людзей знайсці вельмі цяжка, таму што гэта была першая сусветная вайна. Аднак мы збіраем пакрыху звесткі. І ў дадатак, спадзяюся, увойдуць новыя даныя пра тых, хто быў узнагароджаны Георгіеўскімі крыжамі.

Зьявяцца артыкулы пра некаторых сучасных беларускіх гісторыкаў. Увойдзе ў дадатак інфармацыя пра шэраг перыядычных выданняў. Напрыклад, у свой час мы не змясцілі звесткі пра часопіс «Беларуская мінуўшчына», які пачаў выдавацца ў пачатку 1990-х гадоў. Зьявіцца таксама артыкул пра гістарычны альманах «Адраджэнне».

Увогуле, працэс гістарычных даследаванняў пастаянны, гісторыкі нешта новае ўвесь час знаходзяць у архівах. Так, будзе змешчана інфармацыя пра Беларускае выдавецтва і таварыства ў Латвіі, якое існавала ў 1926-34 гадах. Таксама пра Беларускае навукова-краязнаўчае таварыства ў Латвіі ў 1932-33 гадах.

**— Як справы з фінансаваннем праектаў, якія ажыццяўляе выдавецтва «Беларуская энцыклапедыя»?**

— Мы адчуваем пэўныя фінансавыя складанасці апошнім часам. І гэта, дарэчы, уплывае на змяншэнне тыражоў. Напрыклад, першы і другі тамы "Энцыклапедыі гісторыі Беларусі" выйшлі тыражом у 20 тыс. экземпляраў. А тыраж шостага тома, які выйшаў летась, — толькі 10 тыс. Як бачым, тыраж апошняга выдадзенага тома энцыклапедыі ў два разы меншы за тыражы першых тамоў.

Увогуле, да нас зараз звяртаюцца людзі з прапановамі перавыдаць гістарычную энцыклапедыю. Аднак я лічу, што пакуль перавыдаваць яе не варта. У нас ёсць іншыя планы. Мы хочам зрабіць на аснове шасці тамоў нешта падобнае на беларускі гістарычны энцыклапедычны слоўнік. Туды трапіць самае істотнае з «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі».

**— У апошнія дзесяць гадоў у грамадстве змяняліся погляды на многія гістарычныя з'явы, падзеі. Як пры падрыхтоўцы энцыклапедыі вырашалася гэтая праблема, які прынцып падачы матэрыялаў быў абраны вамі?**

— Сапраўды, у пачатку 1990-х гадоў з'явілася шмат новых падыходаў да гістарычных падзей, новых поглядаў на гістарычныя з'явы. І, канешне, нам было цяжка. Таму што самыя розныя пункты погляду бываюць на адну і тую ж падзею ці гістарычную асобу. Напрыклад, як зараз падаваць сацыялізм ці сацыялістычную рэвалюцыю? Ёсць тыя, хто лічыць, што трэба прытрымлівацца ранейшага стаўлення да гэтых з'яў. А ёсць тыя, хто лічыць, што гэтыя з'явы былі цалкам негатыўныя. Мы ж не можам падтрымаць ні тых, ні другіх. Галоўны рэдактар арыентуе нас на тое, каб мы знайшлі сярэдзіну, падавалі толькі аб'ектыўную інфармацыю. І калі сёння не існуе адназначнага тлумачэння нейкай гістарычнай падзеі, то мы адлюстроўваем розныя падыходы, якія існуюць у гістарычнай навуцы. І мы абавязкова падаём бібліяграфію, спіс літаратуры, дзе чытач знойдзе інфармацыю па той ці іншай праблеме.

**— Ці былі выпадкі, калі людзі выказвалі нязгоду з тым, як падаваліся тыя ці іншыя гістарычныя падзеі ў энцыклапедыі?**

— Па шостым томе «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі» сур'ёзных заўваг не было. Хаця ўжо прайшло паўгода з моманту яго выхаду. Што датычыцца іншых тамоў, то часам такія заўвагі зьяўляліся. У асноўным заўвагі адносіліся да апісання падзей савецкага часу. Але я заўсёды падкрэсліваю, што мы не адлюстроўваем нейкі адзін погляд на падзею. Мы імкнёмся як мага больш аб'ектыўна паказаць зьяву.

**— Ці падтрымліваеце вы кантакты з навукоўцамі суседніх краін?**

— Так. Мы падтрымліваем сувязі з расійскімі гісторыкамі, якія жывуць у Маскве, Санкт-Пецярбургу. Маем кантакты з літоўцамі, палякамі. Яны прапаноўваюць нам нейкія матэрыялы для ўключэння ў энцыклапедыю. Атрымалі мы матэрыялы і ад аднаго з французскіх навукоўцаў, які вывучае гісторыю Беларусі. На наш запыт адгукнуўся ў Лондане Гай Пікарда, які займаецца вывучэннем старажытнай музыкальнай культуры Беларусі. Ён даслаў нам свае навуковыя работы... Увогуле, у нас не ўзнікае нейкіх праблем з атрыманнем матэрыялаў аб гісторыі Беларусі ад замежных навукоўцаў.

Сяргей КУЗНЯЦОЎ (Звязда)

# ЛУКАШЭНКА РАСПАЧАЎ НОВУЮ КАМПАНІЮ ПА ЗЬНІШЧЭНЬНІ БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ, ЛІТАРАТУРЫ, МОВЫ...

У сярэдзіне красавіка сярэднія школы Беларусі атрымалі цыркуляр, падпісаны міністрам адукацыі РБ П.Брыгадзіным. У дакуменце паведамляецца, што з ліку дысцыплінаў, абавязковых пры здачы выпускных іспытаў, выключаецца беларуская літаратура. Цяпер выпускнік можа здаваць альбо не здаваць гэты іспыт па ўласным жаданьні. Такім чынам у беларускіх школьнікаў зьнікае апошні стымул вучыцца і размаўляць пабеларуску. Бо да іспыту трэба было рыхтавацца: чытаць і пераказваць творы, вучыць на памяць вершы. А цяпер гэта можна не рабіць. Дэмакратызацыя пабеларуску называецца. У краінах, дзе моўная сітуацыя нармальная, такі крок і сапраўды мог бы выглядаць дэмакратычным. У нас жа гэта ёсьць яшчэ адзін удар па прэстыжу мовы карэннай – русіфікаванай – нацыі. На Беларусі было ўжо штосьці падобнае за хрушчоўскім часам: тады школьнікі маглі адмовіцца ад вывучэньня роднай мовы. Тлумачылася гэта проста: маўляў, калі пры блізкім ужо камунізме ўсе нацыянальныя мовы Савецкага Саюзу арганічна і зладжана зьліюцца ў адную – адзіна правільную і палітычна выверaную – рускую, дык навошта губляць час на вывучэньне беларускай! І што ж – адмаўляліся! Як адмовіліся б, калі б быў на тое такі ж вышэйшы дазвол, ад вывучэньня фізікі ці матэматыкі. Нешта падобнае ў адносінах да нацыянальнай літаратуры на беларускіх абсягах культывуецца і зараз – але ўжо ў сваёй нацыянальнай дзяржаве. Дарэчы, ці ёсьць яшчэ ў сьвеце краіна, насельнікі якой добраахвотна, па ўласнай ініцыятыве, вырашалі быць ім грамадзянамі ды гаспадарамі на сваёй зямлі, паважаць ім родную культуру (найперш мову сваю ды літаратуру), заставацца сьвядомымі носьбітамі нацыянальнага гонару і культуры альбо не. Так, няма такой краіны. Апроч, хіба, Беларусі...

Нават апошні школьнікдвоечнік цяпер цудоўна ўсьвядоміў: калі можна не здаваць іспыт па беларускай літаратуры, дык ці варта ставіцца сур'ёзна да вывучэньня яе, гарбець над творамі Багдановіча ды Гарэцкага, вучыць на памяць вершы Гілевіча ды Барадуліна? А таму, мяркуючы па перадэкзаменацыйных сацыялагічных апытаньнях, прэстыж роднай літаратуры ў беларускіх школах цяпер зьведзены ледзь не да нуля. Здаваць іспыт па літаратуры зьбіраюцца лічаныя школьнікі...

Але вернемся да міністэрскага загаду. Што гэта: свавольства П. Брыгадзіна, выкліканае шкодніцкім неразуменьнем неадкладнай патрэбы разьвіцьця і ўмацаваньня беларушчыны? Ды не! Проста акурат такое аблічча мае на сёньня беларуская дзяржаўная палітыка, якая ня проста цураецца ўсяго беларускага, але мэтанакіравана яго зьнішчае. І за ўсім гэтым, натуральна, воля прэзідэнта Лукашэнкі, без указаньняў і загадаў якога, як вядома, і карова ў самым занядбаным калгасе не ацеліцца...

"Разабраўшыся" з мовай, улады намерыліся паставіць крыж і на беларускай літаратуры. І метады выкарыстоўваюцца тыя ж – езуіцкія: усё зроблена дзеля таго, каб ініцыятыва адмовы ад усяго нацыянальнага ішла зьнізу. Гэта ж, маўляў, ня ўлада грэбуе мовай ды мастацкай кніжкай, на ёй напісанай, а сам беларускі народ.

Што зробіш, калі ў першага прэзідэнта Беларусі такія жыцьцёвыя прынцыпы. Проста выхаваньнем Аляксандра Рыгоравіча ў свой час займаліся ня столькі бацькі, колькі савецкая ўлада ды кампартыя, ня схільныя да такіх сантыментаў, як сумленнасьць, дасьведчанасьць ды чалавекалюб'е. Таму Лукашэнка ўмее і можа ўсё. Не бяз посьпеху перакроіў беларускую палітыку, узяўшы трывалы курс на гітлераўскія метады кіраваньня. Вельмі хутка ўзьняў на неймаверныя вышыні (вышэй калена!) нацыянальную эканоміку, сьцьвердзіўшы ня без падстаў, што шчасьліўцы-беларусы будуць жыць кепска, але нядоўга. І таму наступ на беларускую літаратуру выглядае цалкам лагічным. Як, дарэчы, і на беларускіх літаратараў. Бо менавіта тут знаходзіўся адзін з апошніх асяродкаў вальнадумных носьбітаў нацыянальнай духоўнасьці. Чаму Лукашэнка ўзяўся за пісьменьнікаў? Скажыце, а хто з тых літаратараў падтрымлівае ягоны антыбеларускі курс? Адзінкі. Так, адзінкі, і тыя бліжэй да звычайных графаманаў, пэцкальнікаў паперы, чым да сапраўдных мастроў слова.

Беларускія пісьменьнікі ў сваёй большасьці не падтрымліваюць палітыку Лукашэнкі і палітыка Лукашэнку. А таму прыйшоў неадкладны час і іх загнаць пад лаву. Катэгарычна, без сантыментаў і інтэлігенцкай гуманнасьці. І гэта вельмі характэрна для прэзідэнта, які літаральна гоніць Беларусь да сьветлай будучыні пад нязьменным дэвізам: "Хто не са мной, той супраць мяне!" Працэс бессаромнага цкаваньня пісьменьнікаў з кожным днём набірае тэмпы. Гэткае паляваньне на ведзьмакоў, мэта якога – спляжыць, абылгаць, зьмяшаць з брудам усё спрадвеку беларускае. Звольненыя з пасадаў галоўныя рэдактары літаратурнамастацкіх часопісаў "Полымя", "Маладосць", "Крыніца", "Нёман". Усе гэтыя часопісы, што былі самастойнымі, сагнаныя ў адзін "калгас" – установу, якую ўзначаліў дэпутат Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Сяргей Касьцян, шырока вядомы сваімі славянафільскімі і камуністычнымі поглядамі. Прызначаны на гэтую пасаду ён міністрам інфармацыі па асабістай прапанове Лукашэнкі. Пры гэтым бессаромна былі парушаныя Закон аб друку, статуты выданьняў, правы іх заснавальнікаў... На месцы вальнадумных рэдактараў названых часопісаў прызначаныя лаяльныя да ўладаў "таварышы". Дзеля чаго, думаецца зразумела: каб прапагандаваць і апяваць у высокамастацкіх творах "посьпехі" Лукашэнкі ў эканоміцы, сельскай гаспадарцы і на ніве зьнішчэньня беларускай культуры. Пад пагрозай звальнення і радавыя супрацоўнікі часопісаў, асноўнай бядой якіх стала ня столькі жаданьне пісаць тое, што думаюць, колькі ўласьцівасьць увогуле думаць пра лёс Беларусі, пра яе будучыню.

Ад сваіх адданых падначаленых Лукашэнка патрабуе ў першую чаргу таго, што віртуозна ўмее сам – хлусіць. Адкрыта, у вочы, бяз сораму. Свае асабістыя здольнасьці ў гэтым Лукашэнка паказаў падчас нядаўняга выступу на расійскім тэлеканале НТВ: ён настойліва пераконваў тэлегледачоў, што выхоўваўся ў школе на вершах Васіля Быкава (прызнаны ў сьвеце празаік ніколі вершаў не пісаў, не друкаваў, а тым больш не было іх у школьнай праграме...). Хваліў на НТВ Лукашэнку за тое, што ўсяляк падтрымлівае Саюз беларускіх пісьменьнікаў, хоць на самой справе супрацоўнікі Саюзу амаль год не атрымліваюць заробкаў, за тое, што перыядычныя беларускамоўныя выданьні знаходзяцца ледзь не пад бацькоўскай апекай – зноў хлусьня, бо супрацоўнікі беларускамоўных літаратурных часопісаў таксама не атрымліваюць заробку і грошай на друкаваньне сваіх выданьняў. Хваліў, бо ня ведаюць, што сапраўды адбываецца сёньня на Беларусі. А можа – ня хочуць ведаць?

**На Беларусі цяпер пануе татальная мана. На ўсіх ключавых пастах – верныя паслугачы прэзідэнта, прафесійныя непрафесіяналы-хлусьняры,** выхаваныя ў дзяцінстве на "вершах Васіля Быкава". Ня буду зьдзіўляцца, калі ў асабістых інтарэсах Лукашэнка абвесьціць сёлетнюю вясну кепскай зімой. Хіба ж немагчыма гэта ў краіне "непалоханых ідыётаў"?

**Алесь ГАРКУН.**

*******************************************************

# Народ існуе праз мову...

Андрэ Бём – звычайны нямецкі студэнт-філолаг, прыехаў амаль два годы таму з гораду Бохуму, што славіцца сваім вялікім універсітэтам, у Мінск вучыцца *расійскай* мове (што цалкам натуральна для нашай рэчаіснасці)... Сядзіць насупраць мяне, пасміхаецца, прыгожа гамоніць на правільнай беларускай, распавядае, як упадабаў беларускую літаратуру – Караткевіча, Разанава, Быкава. Я мрою: можа, перада мной чалавек, які калі-небудзь перакладзе іхныя творы на нямецкую. І, не хаваючы свайго захаплення, пытаюся: «Як так? Прыехалі вывучаць расійскую, а вывучылі беларускую, ды яшчэ так выдатна. Навошта Вам гэта?» Ён не разумее пытання, напружана спрабуе здагадацца, што ж я хачу пачуць ад яго. Павольна адказвае: «Ну, а як іначай? Прыехаў у *Беларусь* – вывучыў *беларускую* мову...»

Здаровы спакойны розум не ў стане ўсвядоміць, чаму некаторых да слёз кранае, што іншаземец пачынае сур'ёзна і шчыра цікавіцца нашай мовай і культурнай спадчынай.

***– Скажыце, Андрэ, як даўно Вы ў нас? З якой мэтай прыехалі?***

– Я прыехаў у Мінск паўтара года таму вывучаць расійскую мову па адукацыйным абмене паміж універсітэтамі ў Мінску і Бохуме (Нямеччына).

***– Тады дазвольце спытаца, адкуль такое выдатнае валоданне беларускай?***

– Паколькі я апынуўся ў Беларусі, палічыў натуральным дый неабходным вывучыць родную мову беларусаў, хаця б на пачатковым узроўні. Упершыню беларускае слова пачуў ад настаўнікаў, што выкладалі спецкурс беларускай мовы. Дарэчы, курс быў досыць інтэнсіўны.

***– Я ведаю, што Вы ўсур'ёз зацікавіліся нашай літаратурай. Ці можна сказаць, што Вы да нашай літаратуры прыйшлі праз мову?***

– Можна сказаць і так. У Нямеччыне я ніколі не чуў беларускай мовы, хоць, натуральна, ведаў, што такая ёсць. А тут у мяне была, так бы мовіць, заангажаваная настаўніца, якая рупілася пра тое, каб я не проста авалодаў навыкамі маўлення, але і азнаёміўся з культурнай спадчынай, літаратурай, гісторыяй Беларусі.

***– Трохі правакацыйнае пытанне, і ўсё ж: ці лічыце Вы перспектыўным з навуковага пункту гледжання вывучаць беларускую літаратуру? Зараз ужо навязла на зубах т.зв. праблема глабалізацыі – у нас таксама часта можна пачуць нешта накшталт такога: малыя мовы (адпаведна і літаратуры) усё роўна зьнікнуць, з цягам часу запануюць мовы-гіганты – гэта незваротны працэс...***

– Мяркую, што перспектыўна, бо ў Нямеччыне няма ніводнага спецыяліста па беларускай мове, дый літаратуры таксама. Я нават спецыяльна перавёўся з Бохумскага універсітэту ў Лейпцыг, дзе надзвычай папулярная славістыка, але ж выкладанне і беларускай, і ўкраінской на вельмі нізкім узроўні, як мне падалося. Такім чынам, працы наперадзе шмат.

***– Значыць, варта?***

– Безумоўна, варта, бо любая мова – жывы цэласны арганізм. І беларуская мова вартая таго, каб яе вывучалі, бо

яна здольная выразіць увесь спектр пачуццяў, думак чалавека. На жаль, мне часам здаецца, што я самотны ў такім сваім меркаванні. І ўсё ж я маю дастаткова сяброў, якія прынцыпова размаўляюць і пішуць па-беларуску – значыць, практыкі мне хапае.

***– Як на Вашую думку, ці можа такая шчырая цікавасць збоку да нашай мовы і культуры прымусіць беларусаў па-іншаму, з новага гледзішча зірнуць на свае праблемы?***

– Думаю, у беларусаў хопіць свайго ўнутранага патэнцыялу разабрацца ў саміх сабе.

***– Вернемся да літаратуры. Як шырока Вы ўжо пазнаёміліся з беларускай літаратурнай спадчынай? Ці падалася яна Вам спецыфічнай у плане адлюстравання свету, сістэмы маралі, ці адрозніваецца яна ад іншых вядомых Вам славянскіх літаратур?***

– Пакуль яшчэ не магу назваць сябе добрым знаўцам беларускай літаратуры. Найлепей знаёмы з літаратурай XX стагоддзя, бо, думаецца, у XIX-ым у літаратуры было меней магчымасцяў свабодна развівацца. Што датычыць спецыфікі, думаю, беларуская літаратурная традыцыя адметная тым, што тут пісьменнікам заўсёды прыходзілася змагацца за самастойнасць і самабытнасць; зразумела, расійскія пісьменнікі не існавалі ў такіх экстрэмальных умовах. З беларускай літаратурнай спадчынай немцы слаба знаёмыя, але магу сказаць, што ў нас найбольш папулярныя цяпер Быкаў, Алексіевіч, Адамовіч.

***– З гэтага можна зразумець, што ў вас папулярная менавіта наша ваенная літаратура. Вы можаце якнебудзь гэта патлумачыць? Ці не бянтэжыць Вас, што якраз гэтая тэма была моцна ідэалагізаваная, таму цяпер такія творы востра крытыкуюцца?***

– Насамрэч ваенная літаратура заўсёды нас вельмі цікавіла. Чаму найперш Быкаў? Таму што ён якраз ніколі не праслаўляў вайну, не апяваў (як рабілі некаторыя пісьменнікі на замову). У яго творах адбіўся, так бы мовіць, франтавы погляд на рэчаіснасць – погляд з сярэдзіны. Вось чаму ён цікавы і чаму ў савецкі перыяд яго не ўспрымалі, не разумелі ягонай глыбіні, псіхалагізму. Вельмі папулярная ў нас Алексіевіч. Я яе таксама чытаю, але ведаю, што яе не надта любяць у вас, можа, за яе натуралістычны, непрыхаваны паказ праўды, прыроды, калі можна так сказаць. А ў вас, прабачце, праўду не надта любяць.

***– А хто Вам асабіста падабаецца найболей?***

– Караткевіч, Багдановіч, Алесь Разанаў – як шукальнікі новых формаў, наватары, як асобы, якія разбурылі стэрэатып пра вясковасць, мужыцкасць беларускай нацыянальнай літаратуры. Караткевічам я даўно пачаў цікавіцца. Але нядаўна нават вырашыў пісаць дыплом па ягонай творчасці.

***– Чаму Караткевіч: гучнае імя ці прыватныя сімпатыі?***

– І тое, і тое. Па-першае, ён насамрэч вельмі папулярны, найперш у моладзі (дарэчы, «Дзікае паляванне караля Стаха» – адзіны твор, перакладзены на нямецкую мову); па-другое, хоць тэма дыпломнай працы яшчэ дэталёва не сфармуляваная, але ўжо ведаю дакладна, што хачу вывучаць чалавека ў Караткевіча, ягоныя маральныя пошукі. Я адчуў, што Караткевіч – унікум, надзвычайны эрудыт, інтэлектуал: ён у мінуўшчыне імкнуўся адшукаць прычыны праблемаў сучаснасці, даследаваў іх вытокі, шляхі развіцця беларускай гісторыі і, што важна, самавызначэння, самасвядомасці беларуса.

***– А што скажаце наконт савецкага перыяду развіцця беларускай літаратуры? Ці моцна, на Вашую думку, савецкая мараль і ідэалогія паўплывала на беларусаў?***

– Безумоўна, паўплывала, але час усё паставіў на свае месцы: т.зв. «аптымістычныя» пісьменнікі, якія спявалі славу рэжыму, пісалі на замову, ужо зніклі, іх няма – і іх ужо не чытаюць, яны нікога не хвалююць, а такія моцныя асобы, як Быкаў – засталіся.

***– Цікава, а які беларускі твор Вы назвалі б тыповым?***

– Як я ўжо казаў, дагэтуль жывы стэрэатып, што цэнтральны герой вашай літаратуры – селянін, дык паводле стэрэатыпу – «Новая зямля», «Паўлінка». Але, падкрэсліваю, паводле стэрэатыпу.

***– Можа, я памыляюся, але мне здаецца, што вельмі важна мець трывалую традыцыю здаровай літаратуразнаўчай крытыкі, што таксама задае тон, усталёўвае тыя ці іншыя прынцыпы, шкалу каштоўнасцяў урэшце. Чаго, як Вы думаеце, бракуе сучаснай беларускай літаратуразнаўчай традыцыі?***

– Магу сказаць, што ў постсавецкі перыяд беларуская

крытыка зазнала сапраўдны крызіс, яна яшчэ жыве старымі штампамі, а ёй трэба адшукаць новыя формы.

***– Што б Вам хацелася сказаць, чаго я ў Вас не спытала?***

– Не ведаю... Я сам ужо не раз заўважаў, што пачынаю проста прапагандаваць беларускую мову, культуру: вось прывёз маладых немцаў-студэнтаў – журналістаў, гісторыкаў, лінгвістаў і інш., каб знаёміліся з Беларуссю, беларускай мовай і рэчаіснасцю. Я не прымушаю размаўляць па-беларуску, бо прымусіць немагчыма, але ж тлумачу, што варта захоўваць, рэанімаваць родную мову. Бо народ існуе праз мову. Калі народ не размаўляе на роднай мове – яму цяжэй будзе знайсці **свой** шлях. Дарэчы, у мяне нявеста беларуска, добра ведае беларускую мову, але размаўляе часцей па-расійску, але я над гэтым яшчэ працую...

Гутарыла Анэля СІЛІЧ

++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++

# Нельга маўчаць...

...Калі ня хочам згінуць!

"Полиции удалось остановить толпу, рвавшуюся в здание молдавского парламента. Вчера группа молодых людей, выступающих против обязательного изучения русского языка, возглавляемая лидером оппозиционной Христианской народно-демократической партии Юрием Рошкой, смяла полицейский заслон у парламента и пыталась ворваться в здание высшего законодательного собрания республики. Их остановил второй заслон полиции. Правительство Молдовы официально объявило об отмене обязательного изучения русского языка и изучения в школе истории Молдовы вместо истории румын. Сообщение об этом решении правительства зачитано по радио и телевидению."

Гэтую заметку я ўзяў з "Советской Белоруссии" -- прапрэзідэнцкай газеты. І называлася яна -- "Язык привел на баррикады".

Для чаго я гэта ўсё кажу? Для чаго поўнасцю пераказваю заметку? А для таго, каб звярнуць увагу беларусаў на тое, як трэба адстойваць свой гонар, бараніць сваю мову. Глядзіце, як паднялася Малдова супраць таго, што прэзідэнт-камуніст і яго камуністычны ўрад прымусова навязваюць ім, малдаванам, чужую мову -- рускую.

А ў нас што атрымоўваецца? У школах класы з беларускім навучаннем знікаюць. У вучылішчах, тэхнікумах, інстытутах, універсітэтах, акадэміях беларускае слова амаль не гучыць. Не дбаюць пра родную мову тыя, хто ў Адміністрацыі прэзідэнта, ва ўрадзе, парламенце. Дайшлі да таго, што самога Янку Купалу са спектаклем "Тутэйшыя" прагналі са сцэны Нацыянальнага тэатра...

Цынічныя чыноўнікі кажуць: "Няхай кожны чалавек сам вызначаецца, на якой мове яму размаўляць, на якой мове навучаць сваіх дзяцей". Якое нахабства! Тыя, хто пры ўладзе, вядуць мэтанакіраваную палітыку па знішчэнні беларускай мовы, усяго нацыянальнага, сілком навязваюць не толькі мову, але і культуру, звычкі суседняй дзяржавы -- і хочуць, каб простыя людзі ў гэтых умовах нечага дабіваліся? Нічым іншым, як злачынствам перад нацыяй, гэта не назавеш.

Але я быў бы неаб'ектыўным, калі б усё зваліў толькі на тых высокіх чыноўнікаў, якія дзеля асабістых выгод ідуць на здраду народу. Скажыце, а дзе наша інтэлігенцыя? Дзе наш Саюз пісьменнікаў, другія творчыя суполкі? Нарэшце, дзе наша нацыянальна-свядомая апазіцыя? Можна назваць некалькі імёнаў, якія сапраўды б'юць у званы -- Ніл Гілевіч, Васіль Быкаў, Сяргей Законнікаў, Генадзь Бураўкін, Рыгор Барадулін, Вольга Іпатава, Зянон Пазьняк, Леанід Лыч, Еўфрасіння Андрэева... А чаму маўчаць сотні, тысячы іншых творцаў, палітыкаў, навукоўцаў, грамадскіх дзеячаў? Чаму маўчаць міністр адукацыі і міністр культуры, чаму маўчаць рэктары ВНУ, дырэктары школ і гімназій? Чаму не пайсці ў народ, не падняць людзей на абарону святога святых -- роднай мовы, сваёй гісторыі, сваёй культуры?

Я не клічу на барыкады, але народ мае права на абарону сваёй годнасці, сваёй будучыні. Перастанем быць беларусамі -- перастанем існаваць на гэтай зямлі. Яе зоймуць людзі з чужой мовай, з чужой культурай, з чужымі традыцыямі і звычкамі. Вось на які роздум навяла мяне заметка пра падзеі ў Малдове.

Антон КРЫВЕЦ, (Н.В.)

Сакрат Яновіч (Беласточчына)

# Беларусы ў Польшчы

Беларусы ў Польшчы – гэта аўтахтоны Падляшша з уласнай тысячагадовай гісторыяй. Яны маюць уласную этнічную тэрыторыю, насяляюць усход і цэнтар Падляскага ваяводзтва разам зь Беластокам. Нават колькасна пераважаюць у двух гарадках – цэнтрах паветаў Бельску-Падляскім і Гайнаўцы. Усяго іх жыве ў Польшчы пад 200 тыс. чалавек.

Этнічныя карані беларусаў Падляшша растуць зь перакрыжаваньня славянскіх і яцьвяскіх плямёнаў. У гэтым этнічна-расавым сэнсе ня розьніцца яны ад агульнабеларускага славяна-балцкага этнасу. Цяперашняе Падляскае ваяводзтва – паўднёвы абшар былой Ятвезі, арэал беларускай нацыянальнай меншасьці – гэта вынік паваеннага разьмежаваньня СССР і Польшчы ў адпаведнасьці з новымі межамі сьвету, усталяванымі ў 1945 г. у Ялце.

Узаемная рэпатрыяцыя паміж Польшчай і СССР пасьля 1945 г. кранула беларусаў Падляшша мінімальна. Была яна добраахвотнай, бо тутэйшыя беларусы не стваралі вялікіх праблемаў для новай камуністычнай Польшчы, зрэшты, як і для СССР. Гэта вынікала з амаль поўнай адсутнасьці ў іх нацыянальнай сьвядомасьці і, адпаведна, падставаў для канфлікту палітычных інтарэсаў. Больш уплывалі на іх прычыны сацыяльныя. 99% тагачасных беларусаў былі земляробамі, дробнымі гаспадарамі, і ў іхных настроях дамінавалі насьцярога і страх перад савецкімі "калхозамі". Выяжджалі ў СССР толькі тыя, хто быў зьвязаны альбо з камуністычным рухам у даваеннай Польшчы, альбо з прасавецкай партызанкай у часе гітлераўскай акупацыі.

Польшчы беларусы асабліва не любілі, але паважалі ейны дэмакратызм і большую свабоду ў параўнаньні з савецкім тэрарызмам і пэрманэнтнай галечай. Вось дзе галоўная прычына такой шматлікай "польскай рэпатрыяцыі" з СССР – проста ўцякалі ад *саветаў*, часта хаваючы сваю беларускую нацыянальнасьць, а тым болей праваслаўную веру, якая ў СССР аўтаматычна адносіла чалавека да "сваіх", а не да "палякаў". У часе такіх уцёкаў беларусы выкарыстоўвалі любыя дакумэнты ад даваеннай польскай адміністрацыі.

Улетку 1944 г., калі Вэрмахт быў адкінуты ажно да Віслы, сытуацыя на Падляшшы пачала стабілізавацца, хоць у лясах сядзела яшчэ шматтысячная постАКоўская партызанка. Дзякуючы захаваным тут настаўніцкім кадрам хутка аднавілася сетка пачатковых і сярэдніх навучальных установаў. Паўсталі беларускія школы і гімназіі. Фактычна была рэстаўраваная школьная сетка 1939–41 г., часоў Беластоцкай вобласьці і савецкай улады. Але нацыянальныя школы праіснавалі толькі 1944–45 навучальны год і былі зьліквідаваныя ў адміністрацыйным парадку. Беларусы збольшага паставіліся да гэтых зьменаў абыякава і паслухмяна, бо не цікавіліся ні беларускай, ні польскай нацыянальнай ідэяй, ні адукацыяй уласных дзяцей. Традыцыйная сялянская супольнасьць не адчувала патрэбы руху, разьвіцьця, сядзела ў мэнтальнасьці нядаўняй прыгоннай вёскі XIX ст. Змагаліся за беларускую школу толькі настаўнікі, ня маючы ніякай падтрымкі грамадзтва, а таму асуджаныя на паразу. Самых упартых пэдагогаў змусілі папросту выехаць з Польшчы, у чым было зацікаўленае і савецкае НКВД-МГБ, якое не жадала мець "беларускага анкляву" на памежжы і лішніх клопатаў з русіфікацыяй на захадзе БССР.

Аднак з 1949 г. беларускамоўнае школьніцтва на Падляшшы пачало зноў такі адміністрацыйна аднаўляцца. Чаму? Гэта застаецца таямніцай да нашых дзён – бо нарастаньне ж беларускага культурнага патэнцыялу супярэчыла інтарэсам СССР, зь якімі "народная" Польшча тады лічылася абавязкова.

Усё гэта зьбівала з толку людзей: адзін год нельга вучыцца па-беларуску, другі – ня толькі можна, але абавязкова трэба! Шызафрэнія! Наяўнасьць беларускай асьветы падцягнула ўзровень грамадзка-культурнай дзейнасьці: множыліся аматарскія хоры, нават тэатры. Да іх заснаваньня спрычыняліся выкладчыкі музыкі, рэгенты царкоўных хораў, увогуле асобы з музычнай адукацыяй. Спрыялі й мясцовыя ўлады – выдзялялі грошы на інструмэнты і строі, на дэкарацыі, давалі бясплатна пляцоўкі і транспарт.

У сярэдзіне 50-х, у часе палітычнай *адлігі*, паўстала патрэба нейкай беларускай *арганізацыі*, канфэдэрацыі тых самадзейных калектываў, друку рэпэртуарных матэрыялаў *etc*. Арганізацыі *недзяржаўнай*, але цалкам адданай інтарэсам Партыі і Цэнзуры. Пачаліся нефармальныя кантакты груповак інтэлігенцыі, найбольш зацікаўленых самаадукацыяй у галіне беларускай гісторыі, культуры і літаратуры. Гэта былі гурткі блізкіх сяброў і калегаў, якія часам давалі сабе гучныя імёны, напрыклад, "Саюз беларускіх патрыётаў", "Маладыя філяматы" і г.д.

Як заўжды ў беларускай гісторыі, усё за ўсіх вырашыла ўлада. У лютым 1958 г. з Варшавы прыйшоў загад стварыць *масавае* Беларускае грамадзка-культурнае таварыства (БГКТ) на ўзор ужо існых на той час (напрыклад, Расейскае таварыства з цэнтрам у Лодзі). У тым жа лютым зьявілася беларуская газэта "Ніва" (на ўспамін пра віленскую "Нашу Ніву" 1906–15 г.). Неўзабаве дзякуючы праф.Антаніне Абрэмбскай-Яблонскай у Варшаўскім унівэрсытэце паўстала катэдра беларускай філялёгіі. Гэта мусіў быць цэнтар падрыхтоўкі пэдагагічных кадраў для беларускага школьніцтва ў Беластоцкім ваяводзтве. Адначасова пры ўдзеле выкладчыкаў зь Менску беларуская філялёгія пачала вывучацца ў Завочным настаўніцкім інстытуце ў Беластоку.

У 1958 г. пачаліся штотыднёвыя перадачы беластоцкага радыё па-беларуску. У тым жа годзе пры "Ніве" паўстала літаратурнае кола "Белавежа" (цяпер мае свой статут і дзейнічае самастойна). Паўстала і Беларускае навуковае кола. Гэта быў час г.зв. "малой стабілізацыі", польскі сярмяжны сацыялізм пад праўадырствам Уладзіслава Гамулкі, першага сакратара ЦК ПАРП. "Дэкада Герака" значна затармазіла працу БГКТ і нефармальных структураў пры ім. Дзяржава абмежавала дзейнасьць "Белавежы", абрэзала датацыі на друк, што для Беларускага навуковага кола фактычна азначала ліквідацыю. Гэткім самым спосабам быў ліквідаваны *прафэсійны* і даволі папулярны ў Польшчы эстрадны калектыў "Лявоніха". З Варшавы ішлі інструкцыі "для службовага ўжытку", каб абмежаваць пашырэньне БГКТ. Асабліва націскалі на тое, што вывучэньне беларускай мовы ў "беларускіх" школах *неабавязковае* і што калі хто хоча яе вывучаць, мае падаць адпаведную пісьмовую просьбу. У ПНР праводзілася чарговая лінія "палітычна-маральнага адзінства народу", пабудовы *"польскага сацыялізму"*, а таму партыйная вярхушка імкнулася да рэпаланізацыі і ўніфікацыі беластоцкага рэгіёну. Але "фасад" мусіў застацца – і БГКТ, і тыя школьныя структуры. У дыпляматычных мэтах.

У 1980 г. выбухнула "Салідарнасьць". Барацьба за ўладу паміж "салідарнікамі" і апаратам ПАРП прывяла да зьяўленьня ў мясцовай палітыцы *"беларускай карты"*. З роўным посьпехам гулялі зь ёй абодва бакі. З прычыны традыцыйных левых сымпатыяў беларускага электарату адбыўся падзел беластоцкага рэгіёну на электарат *"польскі"*, альбо прыхільнікаў антыкамуністычнай і клерыкальнай "Салідарнасьці", і электарат *"беларускі"*, які ў насьцярозе і сполаху перад супэркаталіцкай (на Беласточчыне асабліва!) "Салідарнасьцю" галасаваў за "чырвоных".

Вырашальнай была прыналежнасьць *ня столькі нацыянальная, колькі канфэсійная:* каталікі атаясамліваліся з палякамі, праваслаўныя – зь беларусамі. Мясцовыя ксяндзы аўтаматычна блякавалі любы "салідарніцкі" уплыў на праваслаўнае асяродзьдзе. Паўстала *сьцяна. Дзьве* парафіі, якія *нідзе* не хацелі, а таму не маглі перасякацца. І гэтак да сёньня.

У 80-х настаў перадом у нацыянальным жыцьці беларускай меншасьці. У студэнцкім асяродзьдзі паўставалі фармальныя і нефармальныя беларускія групоўкі, зь якіх самай жывучай выявілася Беларускае аб'яднаньне студэнтаў (БАС). У канцы 1980 г. паўстала кансьпірацыйнае Беларускае незалежнае выдавецтва, якое, апроч дробных аднадзёнак, выдавала пэрыёдык "Беларускія

дакумэнты" і спыніла дзейнасьць толькі ў 1987 г. з прычыны інфільтрацыі спэцслужбаў ПНР і магчымага правалу.

Дзякуючы пэўнай аўтаноміі ўнівэрсытэтаў зьяўляліся беларускія выданьні. Яны былі нерэгулярныя, частка не пайшла далей за першы нумар, аднак група, што з 1989 г. выдавала рэгулярны і папулярны сёньня ў Польшчы штомесячнік *"Czasopis"*, выстаяла.

Палітычны клімат славутага Круглага стала паспрыяў зьяўленьню Беларускага клюбу: ягоная ідэя была ў падрыхтоўцы *кадраў* для плянавай *палітычнай партыі*, якая фармальна паўстала годам пазьней, у лютым 1990-га. Звалася яна Беларускае дэмакратычнае аб'яднаньне. Удзел БДА ў парлямэнцкіх выбарах заўжды канчаўся паразай, але на выбарах мясцовага самакіраваньня БДА мела добрыя вынікі, часта выбарчыя камітэты гэтай партыі здабывалі большасьць ці амаль усе мандаты ў асобных гмінах. Пасьля кантраляваны падкасьцельнай "Салідарнасьцю" ваяводзкі Беласток помсьціўся на тых гмінах, перадусім у справе фінансаваньня. Няшчасьцем Польшчы ад вякоў было і ёсьць тое, што ў ёй палітыка дзяржавы падпарадкаваная палітыцы касьцёлу.

Апошняя дэкада XX ст. характарызуецца *стабілізацыяй* беларускіх структураў у Польшчы. Зьмена дзяржаўнага ладу, ліквідацыя ва ўмовах рынкавай гаспадаркі штучных структураў, арыентаваных на дзяржаўныя датацыі, адсунулі на другі плян амбіцыі асобных штатных "дзеячоў" і "беларусаў". Апарат часоў ПНР зьнік. Зь іншага боку, амаль уся беларуская дзейнасьць у Польшчы сёньня трымаецца на грантах і фондах, у тым ліку замежных. Арганізацыйна беларуская меншасьць *распалася на пакаленьні.* Дзеці сяброў БГКТ не пайшлі сьледам за бацькамі, а заснавалі свае арганізацыі, паяднаныя ў Беларускі саюз, які лучыць зь дзясятак розных партыяў, аб'яднаньняў, груповак.

На сродкі Міністэрства культуры выходзіць штотыднёвік "Ніва". Адтуль сама атрымліваюць асноўныя сродкі штомесячнік *"Czasopis"* і літаратурны штогоднік "Тэрмапілы". Нядаўна пры ўдзеле Беларускага саюзу пачаў выходзіць нерэгулярны пэрыёдык для моладзі "Навіны". "Тэрмапілы" і "Правінцыя" маюць характар ужо ня меншасны, але агульнабеларускі. Таварыства *"Villa Sokrates"* выдае штогоднік *"Annus Albarutenicus"* ("Год беларускі").

Пры ўдзеле Беларускага саюзу ў Беластоку дзейнічае беларускае радыё "Рацыя", чые штодзённыя праграмы можна слухаць і ў Беларусі. Таксама ёсьць у Беластоку штодзённая беларуская праграма на радыё, а ў Варшаве – Беларуская рэдакцыя 5-га каналу Польскага радыё.

Школы чыста беларускай на Падляшшы няма. У трох дзясятках вясковых школаў вывучаецца (неабавязкова) беларуская мова. Тая ж дысцыпліна, ужо як абавязковая, выкладаецца ў двух агульнаадукацыйных ліцэях – у Гайнаўцы і ў Бельску-Падляскім.

Найлепш выглядае літаратурная праца польскіх беларусаў. Паволі паўстала штосьці такое, што можна акрэсьліць як *самастойную польскую беларускую літаратуру.* Творы польскіх беларусаў выдадзеныя ў Вялікабрытаніі, Нямеччыне, Італіі, Аўстрыі, Францыі. Польшча ператварылася ў краіну *дзьвюх літаратураў* – польскай і беларускай.

Дзякуючы высілкам Ежы Гедройца нарэшце арганізаваная катэдра беларускай культуры ў Беластоцкім унівэрсытэце. Гэта частковая рэалізацыя ягонае ідэі стварэньня ў Польшчы магчымасьцяў для атрымaньня беларускамоўнай вышэйшай адукацыі, роўнай па ўзроўні і аўтарытэце адукацыі польскамоўнай. Альбо – замежнага *Беларускага ўнівэрсытэту*, які б даваў шанец на эўрапейскую адукацыю і маладым беларусам з Беларусі. Натуральна, тамсама маглі б вучыцца і маладыя беларусы з Падляшша.

********************************************

**ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ!**
**Калі ласка, не забывайце пераслаць грашовую ахвяру на выдавецкі фонд газэты...**
**Прыядноўвайце новых чытачоў і прыхільнікаў!**

====================

# З чаго пачынаецца Радзіма, і чаму трэба берагчы і бараніць яе?

**Гэтае пытанне часта паўстае перад людзьмі. Але ці ўсе ўсведамляюць, што іх асабістае жыццё і будучыня нашчадкаў непарыўна звязаны з іх Радзімай і поўнасцю залежаць ад таго, у якім стане яна знаходзіцца? Ці ўсе добра разумеюць змест і сапраўдную сутнасць паняцця "Радзіма"?**

Розныя людзі па-рознаму спрабуюць растлумачыць сутнасць гэтага паняцця. Вядомы латышскі паэт Яніс Петэрс у адным са сваіх вершаў напісаў: "Гэта зямля, на якой ты нарадзіўся".

Больш шырокае тлумачэнне гэтага паняцця дае энцыклапедыя: "Радзіма -- бацькаўшчына, краіна, у якой чалавек нарадзіўся; гістарычна належная дадзенаму народу тэрыторыя з яе прыродай, насельніцтвам, асаблівасцямі гістарычнага развіцця, мовы, культуры, быту, нораваў".

Нямецкі філосаф і мовазнаўца Вільгельм Гумбольдт так сказаў: "Die wahre Heimat ist eigentlich die Sprache", што ў перакладзе абазначае "Сапраўдная Радзіма -- гэта ўласна Мова". Гэта вельмі трапнае і найбольш дакладнае вызначэнне сутнасці паняцця "Радзіма". Успомнім Святое Евангелле паводле Яна: "Напачатку было слова". Менавіта праз матчына слова пачынае дзіцятка пазнаваць усё, што знаходзіцца вакол яго, -- людзей, прадметы, навакольнае асяроддзе, Радзіму, Сусвет. Праз матчына слова выхоўваецца ў дзіцяці адносіны да ўсяго, што яго акружае.

А калі маці размаўляе з дзіцяткам не на сваёй, а на чужой мове?

З чаго будзе саткана паняцце "Радзіма"?

Можа, з двухгаловага цмока з незразумелай нармальным людзям назвай "Адзіная саюзная дзяржава"?

"Няма ў чалавека нічога лепшага і даражэйшага за Радзіму. Чалавек без Радзімы -- жабрак", -- напісаў пясняр беларускага народа Якуб Колас.

Беларусь -- вось наша бацькаўшчына, наша Маці-Радзіма, наша калыска, наш дом, наша сям'я, наша жыццёвая прастора і наш вечны прытулак. Тут нарадзіліся, жылі і пахаваны нашы продкі, тут нарадзіліся і жывём мы, тут мы ствараем духоўныя і матэрыяльныя каштоўнасці, якімі павінны карыстацца толькі мы і нашы нашчадкі. Менавіта гэта перш за ўсё павінны ўсвядоміць беларускія дзеці праз беларускае слова з малаком маці. Толькі тады яны атрымаюць у спадчыну Радзіму з мілай сэрцу назвай Беларусь і будуць у ёй сапраўднымі гаспадарамі.

На сваёй Радзіме, як у роднай хаце, людзі адчуваюць сябе свабодна і ўпэўнена. У кансалідаваным грамадстве, дзе ёсць дакладныя арыенціры, свабодныя людзі здольныя вырашаць любыя, самыя складаныя задачы. І наадварот, несвабодныя, разрозненыя, дэзарыентаваныя людзі становяцца няўпэўненымі ў сваіх сілах. Яны няздольныя абараніць ні сябе, ні сваіх дзяцей. З імі можна рабіць усё, што хочаш. Іх можна зневажаць, трымаць у стане пастаяннага страху, ашукваць. Над імі можна здзекавацца. У іх можна паступова, крок за крокам, адбіраць усё самае дарагое -- мову, культуру, гісторыю, зямлю, маёмасць, але яны будуць маўчаць. І будзе гэта працягвацца да той пары, пакуль людзі не адчуюць сябе гаспадарамі ў сваёй краіне, пакуль цалкам не зразумеюць сапраўдную вартасць слова "Радзіма".

А што мы ўкладваем у змест паняцця "Радзіма"?

Сюды ўваходзяць як духоўныя, так і матэрыяльныя каштоўнасці.

Галоўнымі духоўнымі каштоўнсцямі зьяўляюцца: мова, дзяржаўныя сімвалы, культура, гісторыя, традыцыі, матэрыяльнымі -- тэрыторыя краіны і яе межы, зямля, маёмасць, грошы.

Усе пералічаныя каштоўнасці адначасова зьяўляюцца неабходнымі прыкметамі самастойнай дзяржавы. Адсутнасць любой з названых прыкмет сведчыць аб непаўнавартасці або несамастойнасці дзяржавы.

Адносінамі людзей да гэтых каштоўнасцей не толькі вызначаецца іх любоў да Радзімы, але і ў значнай ступені стан краіны, у якой жывуць гэтыя людзі.

У якім жа стане знаходзяцца сёння важнейшыя беларускія каштоўнасці: мова, дзяржаўныя сімвалы, культура, гісторыя, традыцыі, тэрыторыя Беларусі і яе межы, зямля, маёмасць, грошы?

Хто і як абараняе іх?

"Беларуская нацыя існуе, пакуль жыве Беларуская мова". Гэтыя словы З. Пазьняка з яго артыкула, надрукаванага нядаўна ў "Народнай волі", гучаць як папярэджанне ўсім Беларусам: "Калі мы хочам захавацца як нацыя, мы павінны берагчы сваю родную мову". Нездарма ж акупанты заўсёды імкнуліся адабраць у акупіраваных народаў іх родную мову, замяніць яе сваёй, каб усталяваць кантроль над імі, пазбавіць іх пачуцця нацыянальнай свядомасці, самастойнасці і волі да супраціўлення. Так рабілі брытанскія каланізатары ў Індыі, Аўстраліі, Канадзе, іспанскія -- у краінах Лацінскай Амерыкі, партугальскія -- у Бразіліі. Такую ж палітыку ажыццяўляюць расійскія імперыялісты ў Беларусі, Украіне, Малдове ды іншых краінах былога СССР. **Асабліва паспяхова робяць гэта яны ў Беларусі праз сваю агентуру, надзейна замацаваную на ўсіх узроўнях дзяржаўнай улады, ва ўсіх дзяржаўных установах і на прадпрыемствах.** Прыглядзьцеся да іх уважліва, і вы ўбачыце, як яны мэтанакіравана выштурхоўваюць з усіх сфер жыцця ўсё беларускае, але найперш беларускую мову. У першую чаргу яе выштурхоўваюць з сістэмы адукацыі і культуры, а таксама з органаў дзяржаўнага кіравання. Гэта стала магчымым толькі таму, што ў нашай краіне на самым высокім дзяржаўным узроўні адкрыта дэманструецца непавага да беларускай мовы. Ні кіраўнік дзяржавы, ні яго бліжэйшыя памочнікі, ні міністры, -- ніхто з высокіх дзяржаўных асоб публічна не ўжывае мову дзяржавы, на вяршыні ўлады якой яны апынуліся. Такога няма больш нідзе ў свеце. Немагчыма нават уявіць, каб яшчэ дзе-небудзь у свеце кіраўнік краіны публічна заяўляў, што мова краіны, якой яму давялося кіраваць, -- бедная мова, што на ёй немагчыма выказаць нічога вялікага, што ў свеце існуюць толькі дзве вялікія мовы -- руская і ангельская.

Варта было б нагадаць гэтаму чалавеку і тым, хто яго акружае і падтрымлівае, што наша мова дадзена нам Богам. Ёю спрадвеку карысталіся нашы продкі. Яна вельмі прыгожая, мілагучная, дакладная і надта багатая. Пачытайце, панове, творы Францішка Багушэвіча, Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, Якуба Коласа, Янкі Купалы, Максіма Багдановіча, Максіма Гарэцкага, Ларысы Геніюш, Наталлі Арсенневай, Уладзіміра Караткевіча, Васіля Быкава, Ніла Гілевіча, Рыгора Барадуліна ды шмат іншых беларускіх паэтаў і пісьменнікаў. Можа тады вы ўбачыце, колькі вялікага і прыгожага створана на беларускай мове -- мове народа, сярод якога і за кошт якога вы жывяце. Паспрабуйце для пачатку хаця б параўнаць такія словы, як раніца -- утро, свята -- праздник, перамога -- победа, вячэра -- ужин, вяселле -- свадьба, сякера -- топор, агародніна -- овощи, садавіна -- фрукты, назвы месяцаў года ды шмат іншых беларускіх і замежных слоў, і магчыма тады вы зможаце распазнаць у нашай мове найбольшую адпаведнасць паміж словамі і з'явай, якую гэта слова абазначае. Магчыма, тады зможаце ўбачыць, якая яна багатая. Дарэчы, і ў нашай мове ёсць слова "язык", але яно мае іншае значэнне, бо мова мае асобы статус недатыкальнасці, асобую велічную назву. Яе нельга прыраўняць ні да якой іншай рэчы. Наша мова, як і іншыя, служыць таксама крыніцай узбагачэння суседніх моў. Напрыклад, рускае слова "немой" трэба разумець як "той, хто не мовіць", нягледзячы на тое, што мае язык.

Калі б не было беларускай мовы ды іншых славянскіх моваў, карані якіх знаходзяцца ў старажытных Полацку, Кіеве, Навагрудку, Мсціславе, Шклове ды іншых нерасійскіх гарадах, няцяжка ўявіць, наколькі б збяднела руская мова...

Беларускія дзяржаўныя сімвалы.

**З чаго пачынаў сваю дзейнасць на пасадзе кіраўніка дзяржавы А. Лукашэнка?**

**З уздыму беларускай культуры, навукі, эканомікі?**

**Ці можа з адраджэння канаючай беларускай вёскі?**

**Нічога падобнага. Сваю дзейнасць ён пачаў з выкаранення ў нашай краіне галоўных прыкмет беларускай дзяржаўнасці -- беларускай мовы, старажытнага беларускага герба "Пагоня" і бел-чырвона-белага сцяга.**

Ужо тады стала зразумелай яго галоўная мэта -- аслабіць дзяржаўныя інстытуты ўлады ў Беларусі, спыніць іх развіццё і ўмацаванне, парушыць баланс галін улады, сканцэнтраваць усю ўладу ў сваіх руках і выкарыстаць Беларусь у якасці казырнай карты ў сваёй палітычнай гульні з усходняй суседкай. Але спрактыкаваныя расійскія ігракі, якія ажыццявілі не адзін дзяржаўны пераварот у шмат якіх краінах свету, перагулялі яго і выкарысталі ў сваіх мэтах, фактычна ажыццявіўшы праз яго "мірным шляхам" акупацыю нашай краіны, а яго самога ператварылі з актыўнага ігрока ў сваю мечаную карту, якую цяпер выкарыстоўваюць у ажыццяўленні далейшых планаў расійскай імперыі ў адносінах да нашай краіны. Ды і не толькі нашай.

Узровень развіцця асобы і грамадства вызначаецца станам іх культуры, гэта значыць адносінамі людзей паміж сабой, да прыроды, да матэрыяльных і духоўных каштоўнасцей. Дзяржава павінна спрыяць развіццю Нацыянальнай культуры.

А што робіцца сёння ў нашай краіне?

Дастаткова нагадаць пра забарону ўладай "Тутэйшых" у Нацыянальным тэатры імя Янкі Купалы, або штотыднёвай перадачы з касцёла Святых Сымона і Алены "Голас Душы" на Беларускім радыё, каб зразумець сапраўдную сутнасць адносін існуючай у нашай краіне ўлады да беларускай культуры.

**Фальсіфікуецца беларуская гісторыя.**

**Выкараняюцца сапраўдныя традыцыі беларускага**

народа, а чужыя штучныя, не ўласцівыя Беларусам, укараняюцца. У выніку страчваецца духоўнасць, зніжаецца ўзровень маралі, культуры, з усімі наступствамі дэградацыі нацыі. Большасць сённяшніх падлеткаў і дзяўчынак не саромеюцца смокчуць цыгарэты і піва, якія рэкламуюцца амаль на кожным скрыжаванні вуліц Мінска ды іншых беларускіх гарадоў.

Зруйнаваны многія межы краіны, а яе тэрыторыяператворана ў прахадны двор краін СНД. Усходнія вобласці нашай краіны бесперашкодна засяляюцца расійскім бамжамі.

Без дбайнага гаспадара ў запушчаным стане знаходзіцца беларуская зямля -- найважлівая з усіх матэрыяльных каштоўнасцей Беларусаў. Не выконваецца Закон Рэспублікі Беларусь "Аб прыярытэтным сацыяльна-культурным і эканамічным развіцці сяла і аграпрамысловага комплексу", прыняты Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь 29 мая 1991 года. Урад так і не распрацаваў Дзяржаўную праграму адраджэння беларускай вёскі, якую павінен быў распрацаваць да 1 снежня 1991 года ў адпаведнасці з Пастановай Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь "Аб увядзенні ў дзеянне Закона Рэспублікі Беларусь "Аб прыярытэтным сацыяльна-культурным і эканамічным развіцці сяла і аграпрамысловага комплексу".

А ў чыіх інтарэсах і хто гандлюе сёння Беларускай маёмасцю?

Вядома ж не ў інтарэсах Беларусі аддаюцца пад кантроль Расіі многія лепшыя беларускія прадпрыемствы.

Грошы выконваюць надзвычай важныя функцыі ў нацыянальнай эканоміцы.

Гэта сродак аплаты тавараў і паслуг, сродак ацэнкі (вымярэння) вартасці, сродак збераджэння (накаплення) вартасці.

На мікраэканамічным узроўні юрыдычныя асобы і індывідуальныя прадпрымальнікі, урадавыя ўстановы ў сваіх штодзённых дзелавых аперацыях выкарыстоўваюць наяўныя грошы і банкаўскія ўклады.

На макраэканамічным узроўні здаровая грашовая сістэма -- важнейшая перадумова стабільнасці цэн, пры якой становяцца магчымымі і поўная занятасць, і ўстойлівы эканамічны рост.

У кожнай дзяржаве ў сучасных рынкавых эканамічных сістэмах адказнасць за правядзенне грашова-крэдытнай палітыкі нясуць цэнтральныя эмісійныя банкі. Толькі цэнтральны эмісійны банк дзяржавы мае права ажыццяўляць грашовую эмісію і рэгуляваць колькасць (масу) грошай, што знаходзяцца ў абарачэнні, як вызначальную функцыю цэн, даходаў і занятасці.

Акрамя сваёй ролі ў нацыянальнай эканоміцы, грошы выконваюць важныя функцыі ў міжнародных дзелавых аперацыях.

Пасля ліквідацыі беларускіх грошай, што рыхтуюць нам расійскія стратэгі праз сваіх тутэйшых памагатых, і ўвядзення расійскіх грошай з непадзельным правам чужога Цэнтрабанка ажыццяўляць грашовую эмісію, Беларусь поўнасцю страціць магчымасць рэгуляваць у сваёй краіне колькасць (масу) грошай. Яна не зможа ў поўнай меры ўплываць на хуткасць абарачэння грошай, на ўзровень цэн, на інвестыцыйную дзейнасць, на нацыянальны даход, на ўстойлівае функцыянаванне эканамічнай сістэмы, на ўзровень жыцця насельніцтва. У такіх варунках уся эканоміка Беларусі трапіць ў поўную залежнасць ад эканомікі Расіі, ад яе "чорных аўторкаў", неплацяжоў ды іншых свядомых і несьвядомых грахоў. Але найбольш пацерпяць пенсіянеры, настаўнікі ды іншыя залежныя ад бюджэту катэгорыі насельніцтва.

**Відавочна, што наша Айчына знаходзіцца сёння ў вялікай небяспецы, што зыходзіць ад імперскай Расіі і падкантрольнай ёй мясцовай каланіяльнай адміністрацыі.**

**Дык будзьма ж кожны на сваім месцы і ўсе разам бараніць нашу Маці-Радзіму Беларусь.**

Мікалай КРЫЖАНОЎСКІ, (Н.В.)

*********************************************

# Заблудзілі

Гэй, гэй, беларусы! Заблудзілі ў лесе,
Ды не там, ля Белай вежы, недзе на Палессі.
Заблудзілі вы не ў лесе -- паміж трох сасонак,
Зацярушаны ў вас вочы, не глядзяць спрасонак.
Ды не бачаць вашы вочы шляхоў тых гасцінцаў,
Каб ісці сваёй дарогай, а не за чужынцам.
А чужынец вас пацягне на сваю сцяжыну,
Ён карысць сваю шукае -- ўзлезці вам на спіну.
У саюзе, у хаўрусе, а мо і ў аншлюсе,
Каб імя сваё забыўся братка-беларусе.
Каб не чулі пра Рагнеду, Міндоўга, Скарыну,
Ды паноў тых праслаўлялі, што нам секлі спіну...
Колькі ж трэба зімаў-летаў, а то і стагоддзяў,
Каб, набраўшы поўны грудзі, вы гукнулі "Годзе!".
Што? Мо, мужнасці не хопіць, розуму не стане,
Каб нам жыць на белым свеце ў гонары-пашане?
Мо пара, браты-панове, з каленяў падняцца,
Размаўляць на роднай мове
Ды людзьмі назвацца!

Эдуард СЯЛІЦКІ. (Н.В.)

Вольга БРЫЛОН

# ВЯРТАНЬНЕ МУЗЫКАНТА

(Да 95-годзьдзя Мікалая Клаўса)

Дый увогуле, М. Клаўс быў сведкам і ўдзельнікам найцікавейшых падзей, якія адбываліся ў музычным жыцці Беларусі і яе сталіцы ў 1920 — 1940-я гг. Толькі цяпер стала зразумела, колькі белых плям пакінула нам з таго часу гісторыя і як мала засталося людзей, здольных праз столькі гадоў аднавіць многія яе забытыя старонкі. У гэтым сэнсе М. Клаўс — асоба унікальная. Ён — чалавек, памяць і розум якога не кранулі ні ўзрост, ні ўсе страшныя пакуты, якія яму давялося зведаць. Я зразумела гэта падчас той самай тэлефоннай гутаркі, а яшчэ больш пераканалася ў тым, пазнаёміўшыся з Мікалаем Парфір'евічам асабіста.

ГУЛАГ пакінуў яму ў спадчыну не толькі цяжкія ўспаміны, але і слепату. Менавіта ў Мінску, у сумна знакамітай турме па вул. Урыцкага, празванай у народзе "амерыканкай", ён зазнаў на сабе, як абыходзіліся з "ворагамі народа" сталінскія следчыя органы. Хамства і рукапрыкладства следчых былі такія ж невыносныя, як, напрыклад, пакаранне вадзяным карцэрам ці змяшчэнне ў камеру, па перыметры якой праведзены ток высокага напружання. Выбіваючы паказанні, следчыя не грэбавалі нічым. Асабліва даспадобы ім былі начныя допыты, якія цягнуліся некалькі гадзін запар. Удзень жа спаць не дазвалялася ні хвіліны. Тады вочы і пачалі адмаўляць. (Канчаткова ён аслеп у канцы 1980-х, ужо ў Калузе.)

А пацярпеў з-за таго, што падчас акупацыі працаваў у Мінску. Эвакуявацца не змог: на руках, апроч жонкі і маленькай дачкі, заставаліся сляпая цешча і паралізаваны цесць. У мітусні першых дзён вайны, калі кіраўніцтва спехам пакідала горад, М. Клаўс сустрэўся з вядомым на той час прафесарам М. Прыляжаевым*, які параіў Мікалаю Парфір'евічу застацца ў Мінску і ўладкавацца на працу. Спадзяванні былі на "аўтарытэт" Клаўсавага прозвішча, якое, здаецца, не пакідала сумненняў адносна яго нямецкага паходжання (што зусім не адпавядала ісціне, бо па нацыянальнасці ён самы што ні на ёсць сапраўдны беларус). "Будзеце нам карысны", — сказаў Прыляжаеў.

Мікалай Клаўс пачаў працаваць дырыжорам у Мінскім гарадскім тэатры, а таксама ўзначаліў сімфанічны аркестр, які рэпеціраваў у будынку радыёкамітэта па вуліцы Рэвалюцыйнай, 3 (у вайну — Кірхенштрасэ). У разбураным, скаваным нематой і страхам горадзе Мікалай Парфір'евіч змог аб'яднаць у асаблівае братэрства тых нешматлікіх музыкантаў, што засталіся ў Мінску. Сярод іх было нямала яўрэяў, для якіх праца ў аркестры была сапраўдным выратаваннем, вызваленнем ад гета. Некаторых музыкантаў пры падтрымцы галоўнага дырыжора ўдалося пераправіць у лес, да партызанаў. А кантрабасіст Дзмітрый Жураўлёў — былы аднакашнік і добры сябар М. Клаўса — падтрымліваў непасрэдную сувязь з мінскім гарадскім падпольным камітэтам. Усё гэта добра ведаў Мікалай Парфір'евіч, на ліку якога — дзесяткі выратаваных жыццяў. Яшчэ аднаго свайго кансерваторскага сябра — Кірылу Сабалеўскага, абаронцу Брэсцкай крэпасці, ён уладкаваў у тэатр піяністам. Ён вызваляў з бяды сваякоў вядомых беларускіх артыстаў, такіх, напрыклад, як Ларыса Александроўская (з ёй М. Клаўс таксама вучыўся ў Мінскім музычным тэхнікуме). Яшчэ да вайны Ларыса Пампееўна стала народнай артысткай СССР, вядомым грамадскім дзеячам. Яна эвакуявалася, а маці засталася ў Мінску. Ёй пагражала небяспека, і Мікалай Парфір'евіч сілай свайго аўтарытэта адвёў ад яе бяду. Ён дапамог і сям'і Ісака Любана: яго жонка Анастасія Калеснікава і двое дзяцей засталіся ў Мінску, жылі ў нястачы. А нехта яшчэ данёс у камендатуру, што І. Любан — яўрэй і камуніст. М. Клаўс пры дапамозе Б. Берута, які працаваў у гарадской управе, пераканаў нямецкія ўлады, што дзеці — хлопчык і дзяўчынка — не з'яўляюцца дзецьмі І. Любана і ў іх жылах не цячэ яўрэйская кроў.

Усё гэта рабілася ціха, без паказухі. Мікалай Парфір'евіч проста выконваў свой чалавечы абавязак. Але ён рабіў і нешта большае — тое, чым справядліва ганарыцца і лічыць сваёй найвялікшай заваёвай.

— Працай у акупаваным Мінску я, чым мог, падтрымліваў у людзей веру ў тое, што наша беларуская культура — непераможная, высокадухоўная, — гаворыць ён. — У гэтым была мая мастацкая місія. Бо Гебельс жа сцвярджаў, што беларусы — гэта куча гною, напаўлюдзі-напаўжывёлы. Калі немцы дазволілі адкрыць наш тэатр, я з беларускімі артыстамі, што засталіся ў Мінску, паставіў оперы "Вяселле Фігара" В. А. Моцарта, "Кармэн" Ж. Бізэ, "Севільскі цырульнік" Дж. Расіні, аперэту "Цыганскі барон" І. Штраўса, беларускую оперу "На Купалле" А. Туранкова. Нямецкія салдаты, вяртаючыся пасля спектакляў у казармы, у захапленні гаварылі адзін аднаму: "О, нават у Германіі мала такіх тэатраў, а тут, у разбураным горадзе, і Моцарт, і Бетховен!.."

Але ў 1948 г., калі пачалася другая хваля рэпрэсій, М. Клаўса палічылі ворагам і прыгаварылі да вышэйшай меры пакарання — расстрэлу. Потым гэтая мера была заменена на 25 гадоў ГУЛАГа (у сукупнасці па трох артыкулах Крымінальнага Кодэксу БССР). Арышт не быў для яго нечаканасцю: ён адчуваў, што хмары над ім згушчаюцца і кожны яго крок пад кантролем. Таму, баючыся за лёс жонкі і дачкі, М. Клаўс паспеў адправіць іх далей ад Мінска — у Талін.

Восем гадоў ён, першакласны музыкант, адпрацаваў у шахце № 9 "другой катэгорыі загазаванасці", як яе называлі афіцыйна, у пасёлку Інта, што паблізу ад Палярнага круга. Там, у лагеры, пісаў шмат музыкі і здолеў арганізаваць пяць (!) сімфанічных аркестраў. Музыка і сапраўды дапамагала яму выжыць, і як бы банальна ні гучалі гэтыя словы, у іх заключана вельмі простая ісціна.

Пасля вызвалення Мікалай Клаўс працаваў галоўным дырыжорам Комі-Пярмяцкага музычна-драматычнага тэатра ў Сыктыўкары, паставіў там шмат твораў, сярод якіх — оперы "Севільскі цырульнік" Дж. Расіні, "Русалка" А. Даргамыжскага, "Травіята" Дж. Вердзі, мюзікл "Мая цудоўная лэдзі" Ф. Лоў і інш. І дагэтуль тэатральныя старажылы Сыктыўкара ўспамінаюць яго самымі цёплымі словамі.

Апошнія 30 з лішнім гадоў ён — у Калузе. ГУЛАГ адабраў у яго не толькі здароўе, але і сям'ю: яго шлюб быў скасаваны адразу пасля арышту, а адзіная дачка і цяпер жыве ў Таліне (ужо сама бабуля). Яны перапісваюцца (Мікалай Парфір'евіч услепую друкуе на машынцы), але сустрэцца не могуць ужо шмат гадоў: залішне далёкі цяпер шлях паміж Калугай і Талінам.

Тут, у Калузе, Мікалай Парфір'евіч ажаніўся другі раз. Але яго абранніца, якая была яму вернай сяброўкай, памерла 15 гадоў таму. Цяпер ён зусім адзін, аднак не страціў той сілы духу, увогуле ўласцівай людзям яго пакалення.

Мікалай Клаўс нарадзіўся 6 (19) снежня 1906 г. у гарадку Клімавічы Магілёўскай губерні ў сям'і Парфірыя Восіпавіча Клаўса і Варвары Паўлаўны Георгіеўскай. Бацька памёр праз чатыры гады пасля нараджэння сына, і хлопчык выхоўваўся ў сям'і дзеда па мацярынскай лініі — святара, мітрафорнага протаіерэя Паўла Якаўлевіча Георгіеўскага...

# БЕЛАРУСЬ І СЬВЕТ

Польскі штотыднёвік "Wprost" у апошнім нумары надрукаваў артыкул "Польская пралка Лукашэнкі", у якім сьцьвярджаецца, што каля 2 млрд даляраў, зароблены Аляксандрам Лукашэнкам на нелегальным гандлі зброяй, адмываліся ў тым ліку й праз польскія фірмы. Адзін з аўтараў артыкула, журналіст Янка Чурыловіч у інтэрвіюРадыё Рацыі заявіў, што да фірмаў, празь якія адмываліся грошы, мае непасрэднае дачыненьне беларускі КДБ.

**RR.:** - Беларускія ўлады працягваюць абвяргаць усе зьвесткі пра нелегальны гандаль беларускай зброяй. У сваім артыкуле Вы сьцьвярджаеце, што зброя ня толькі нелегальна прадавалася, але грошы, атрыманыя ад гандлю, асядалі на рахунках фірмаў, якія кантралююцца Аляксандрам Лукашэнкам. Наколькі я разумею, Вы паспрабавалі раскрыць усю схему - ад продажу да рахункаў?

**Я.Ч.:** - Гэтая публікацыя завяршае мой першы артыкул. Я паказваю ўсю схему продажу беларускай зброі. Калі ў першым артыкуле я паказваў, куды яна прадаецца й што гэтыя факты сапраўды пацьвярджаюцца, то ў цяперашнім - як гэта робіцца. Я паспрабаваў раскрыць мэханізмы: як ажыцьцяўляецца аплата, куды ідуць грошы, якія не даходзяць да беларускіх падаткаплатнікаў. Я падаю сумы, якія недаатрымаў беларускі бюджэт, у якіх канкрэтна фірмах ляжаць грошы Лукашэнкі.

**RR:** - Незалежныя экспэрты называюць розныя сумы, якія нібыта "нагадляваў" Аляксандр Лукашэнка на зброі. Якімі лічбамі апэруеце Вы?

**Я.Ч.:** - З таго, што вядома мне, і з тых зьвестак, што я здолеў назьбіраць, Лукашэнка нагандляваў ня менш за 2 млрд даляраў. Незалежныя экспэрты ацэньваюць суму, якой валодае Лукашэнка - ад 2 да 3 млрд даляраў.

**RR:** - Чаму Аляксандар Лукашэнка абраў менавіта КДБ для апэрацыяў з адмываньнем грошай?

**Я.Ч.:** - Грошы сапраўды адмываліся пад фірмы, зарганізаваныя за мяжой, рознымі людзьмі, у тым ліку й КДБістамі. Тыя зьвесткі, якімі мы валодаем зараз, даводзяць, што КДБ мела самае непасрэднае дачыненьне й удзел да адмываньня грошай, а таксама да плянаваньня гэтага працэсу.

**RR:** - Ці ёсьць рэакцыя з боку беларускіх уладаў на зьяўленьне выкрывальніцкіх публікацыяў?

**Я.Ч.:** - Я мяркую, што рэакцыя - гэта даволі паважная справа, і таму беларускія ўлады ня будуць асабліва сьпяшацца з адказам на гэтую публікацыю. Думаю, што зараз беларускія ўлады толькі пачынаюць разглядаць варыянты рэакцыі. (R.R.)

* * *

...A wide-ranging new study by Professor Arnold McMillin (SSEES) entitled

**BELARUSIAN LITERATURE OF THE DIASPORA**

(xvi + 503 pp., bibliography, index, £30.oo)

The book falls into three parts: émigré Belarusian literature; Belarusian literature in contemporary eastern Europe (except Poland); and Belarusian literature in Poland. In the first and third of these, some of the outstanding writers are considered in separate chapters, whilst the majority are treated according to whether they wrote poetry, prose or drama; a number of writers appear in more than one chapter. Some fifty authors are discussed, separate chapters being devoted to Janka Juchnaviec, Łarysa Hienijuś, Natalla Arsieńnieva, Masiej Siadnioŭ, Jan Čykvin and Sakrat Janovič.

With a comprehensive bibliography and index, this book aims to present a thorough overview of Belarusian émigré literature, as well as offering a glimpse of — in addition to political persecution — a far from standart experience of World War II as reflected in memoirs and fiction, and, in the case of the writers in Poland, an insight into the problems and rewards of maintaining a specific culture in an alien, though not necessarily hostile, environment, outside the metropolitan area.

We feel that Professor McMillin has made a valuable contribution to the awareness of Belarusian literary culture... *J. Mullen*

# Мэдыцына

## Навошта хвораму банан?

Ва ўсіх бальніцах і клініках краіны будзе ўведзены новы рацыён харчавання для пацыентаў. Адпаведная пастанова Міністэрства здраваахова ўбачыла свет у красавіку гэтага года.

Згодна з новым дакументам, "меры па выкананні" павінны пачацца ўжо ў другой палове мая і завяршыцца 1 ліпеня. Лекарам і медсёстрам прапануўваецца распавесці пацыентам, што айчыннай мэдыцыне не па кішэні карміць хворых, і таму аб бясплатных бальнічных абедах прыйдзецца забыцца. Дакладней: абеды захаваюцца, але пералік блюд будзе вельмі скупы. З харчавання пацыентаў амаль цалкам выдаляць сокі, садавіну, агародніну, мяса, рыбу, сыры, сметанковае масла. Застануцца кашы, макароны, бульба, гарбата. З мясных блюд будуць прысутнічаць толькі біточкі і катлеты, на прыгатаванне якіх будзе выкарыстоўвацца мяса далёка не першай катэгорыі.

Адным словам, пажаданні зверху Мінздраў выканае. Як вядома, у лютым гэтага года на калегіі міністэрства ішла размова аб тым, як сэканоміць сродкі сістэмы здраваахова, якая ў гэтым годзе ў параўнанні з мінулым недаатрымала дзяржаўнага фінансавання амаль удвая. I менавіта тады вырашылі лепей скараціць "бытавыя" паказчыкі, чым аб'ём бясплатных медыцынскіх паслуг. Спецыялісты падлічылі, што харчаванне аднаго шпіталізаванага хворага абыходзіцца дзяржаве больш як 3 тысячы рублёў, а гэта, на думку кіраўніцтва дзяржавы, раскоша недапушчальная. Таму вырашылі рацыён харчавання пералічыць у калорыях, што амаль на чвэрць танней. Аднак цяжка ўявіць, як можна накарміць хворага за 800 рублёў...

У Міністэрстве аховы кажуць, што ніхто ў бальніцы не памрэ з голаду. Ёсць распараджэнне міністэрства да 1 ліпеня ва ўсіх бальніцах арганізаваць платныя буфеты з гарачым харчаваннем. Можа, яно і так, але немагчыма ўявіць, як, напрыклад, чалавек пасля аперацыі будзе стаяць у чарзе за шклянкаю бульёну. Цікавае меркаванне выказаў на гэты конт адзін з лекараў сталічнай бальніцы, які пажадаў застацца невядомым:

"Наша ўстанова мае рэспубліканскае значэнне. Часта да нас пападаюць пацыенты, у якіх няма родных або блізкіх у Мінску. Нават нельга ўявіць, як яны будуць харчавацца. Напрыклад, асартымент нашага буфета скудны: сасіскі і гарбата.

Акрамя таго, ёсць цяжка хворыя пацыенты, якія ўвогуле не змогуць хадзіць у буфет. А трымаць прадукты ў палаце няма ўмоў..."

Вольга **ГРЫНЯВІЦКАЯ**. (Н.В.)

## Уладзімер Мулявін пасьля аўта-катастрофы…

Сярэдняй ступені цяжкасьці ацэньваюць мэдыкі стан кіраўніка ансамблю "Песьняры" **Уладзімера Мулявіна.** Цяпер ён знаходзіцца ў рэанімацыйным аддзяленьні НДІ траўматалёгіі. Мэдыкі адзначаюць "пэўнае паляпшэньне стану" артыста й кваліфікуюць "агульны стан як стабільны". Улічваючы сур'ёзнасьць атрыманых траўмаў мэдыкі прагназуюць працяглы аднаўленчы пэрыяд. У.Мулявіна ў лякарні наведалі расейскія сьпевакі Іосіф Кабзон і Аляксандар Разэнбаўм.

## Полацк адзначае 900-годдзе Ефрасінні Полацкай

Да 5 чэрвеня працягвалася ў Полацку святкаванне 900-годдзя з дня нараджэння Святой Ефрасінні Полацкай. Мерапрыемствы, прымеркаваныя да гэтай даты, пачаліся 8 Кірыла-Мефодзеўскімі чытаннямі. Упершыню у Спаса-Ефрасіннеўскім манастыры пройшоў фестываль звону. З 30-га па 31-га мая ў Полацкім дзяржаўным універсітэце працавала міжнародная канферэнцыя на тэму: "Прападобная Ефрасіння Полацкая і пытанні славянскай асветы". Апагеем святкаванняў было спецыяльнае набажэнства ў Сафійскім саборы... Па заканчэнні службы адбыўся хрэсны ход з Сафійскага сабору да Свята-Ефрасіннеўскага манастыра. Нацыянальны Полацкі гісторыка-культурны музей-запаведнік падрыхтаваў да свята спецыяльную выставу. У гонар Ефрасінні Полацкай у горадзе прайшло некалькі канцэртаў духоўнай музыкі.

## ВЯЗЬНІ ГУЛАГУ ІВАН І ТЭАФІЛІЯ ДУДКІ З БАРАНАВІЧАЎ ДАГЭТУЛЬ НЕ РЭАБІЛІТАВАНЫЯ

Іван Дудко быў адным з тых "ворагаў народу", чыімі рукамі пабудаваны Менскі трактарны завод. Паводле яго, тое будаўніцтва было "сапраўднай душагубкай", дзе вязьні адчувалі сябе значна горш нават за сталінскія лягеры на Поўначы.

Гісторыя жыцьця Івана й Тэафіліі Дудкоў з Баранавічаў падобная да лёсаў многіх беларусаў, якія ў часе другой усясьветнай вайны імкнуліся да адбудовы сваёй незалежнай беларускай дзяржавы. Узгадвае Іван Дудко:

"Гэта было ў 1944 годзе. Нас бралі ў Беларускую Краёвую Абарону. Беларуская Цэнтральная Рада абвесьціла мабілізацыю ўсіх, хто нарадзіўся з 1918 па 1922 год — яны павінны былі зьявіцца ў ваенкамат. Калі толькі ня пойдзеш у армію, значыць, зьнішчаць усіх нашчадкаў і спаляць маёмасьць.

I мы прыбылі ў Нясьвіж, у беларускі батальён Краёвай Абароны. Там мы хадзілі ў сваім адзеньні, толькі займаліся падрыхтоўкай. Езьдзілі ў Застралечча, там якраз Каўпак наступаў, мы там ахоўвалі школу... I за гэта потым ужо ў 1946 годзе забрала нас МГБ, сьледзтва вялі й далі 10 гадоў. Іван Дудко кажа, што, пайшоў у Беларускую Краёвую Абарону, таму што была мабілізацыя й трэба было падпарадкоўвацца. Усьведамленьне таго, што насамрэч адбывалася ў краіне, прыйшло пазьней, ужо за кратамі. Іван Дудко быў адным з тых "ворагаў народу", якія будавалі Менскі трактарны завод.

"Баракаў не было. Жылі ў цэху, ён быў накрыты ня шклом, а аполкамі. Дождж пойдзе — залівала падлогу, вады было па костачку, а ўзімку, як пурга, дык замятала нас сьнегам, што толькі пара ішла з-пад коўдры. Ні печы не было, нічога. Раніцай пайку хлеба давалі й суп, нейкую баланду, турнэпс з гнілой траской. А на абед прывозілі жывую пшаніцу, неразмолатую. Я заліў там фундамэнт пад кавальны й ліцейны цэхі. А ўжо ў 1948 годзе нас завезьлі на Поўнач, у Інту. На трактарным была самая сапраўдная душагубка, там шмат загінула нашых хлопцаў".

"Нават горш за Поўнач?"

"На Поўначы было ўдвая лепш. Там было абжыта, баракі былі".

У Інце Іван Дудко й пазнаёміўся са сваёй будучай жонкай Тэафіліяй. Яна была асуджаная за тое, што ў часе другой усясьветнай вайны стала сябрам Саюзу Беларускай Моладзі. Некалькі гадоў Іван й Тэафілія перапісваліся ў лягеры, пабачыцца маглі, калі, накіроўваючыся на працу, сустракаліся жаночы й мужчынскі атрады. Узялі шлюб, толькі вярнуўшыся на радзіму ўжо пасьля амністыі. У Інце ў Івана Дудка пачалася перапіска й зь беларускай паэткай Ларысай Геніюш.

"Геніюш разам з намі была ў лягеры. Ларыса Антонаўна і мне пісала, дасылала нам і вершы, падтрымлівала нас маральна. Пасьля вызваленьня Ларыса Антонаўна пераехала ў Зэльву. Мы з Тэафіліяй езьдзілі да яе".

Сям'я Дудкоў захавала блізкія дачыненьні з Ларысай Геніюш. Спадар Іван рамантаваў ёй дом, сама паэтка неяк даглядала захварэлага сына Дудкоў.

Іван і Тэафілія Дудкі дагэтуль не рэабілітаваныя. Калі спадар Іван зьвярнуўся да ўладаў па рэабілітацыю, то атрымаў адказ, што пакараньне, маўляў, было справядлівае. Як і тады, так і цяпер Іван Дудко ня лічыць сябе вінаватым і мяркуе, што ўлады ня могуць дараваць яму й жонцы **ўдзелу ў вызвольным руху дзеля незалежнай Беларусі.**

**Выдавецкі Фонд нашае газэты просіць не забывацца пра яго патрэбы!**

**Сяргей Законьнікаў:** урывак з інтэрвію газэце "Народная Воля".

...Наогул, улада -- рэч вельмі небяспечная. Яшчэ са старажытнасці мудрыя людзі сцвярджалі, што можна насыціцца, здаволіцца ўсім: грашыма, багаццем, ежаю, віном, жаночаю ласкаю, але толькі не ўладаю. Каб не падпасці пад яе згубнасць, чалавек павінен быць падрыхтаваны маральна. Варта толькі пераступіць выпрацаваную чалавецтвам маральную мяжу, і тады наступае ўседазволенасць.

I вось ужо любому грамадзяніну няма дзе шукаць справядлівасці: ні ў чыноўніцкіх кабінетах, ні ў судзе.

I вось ужо мардаты, адкормлены служка "правапарадку" падкаваным чаравікам б'е ў жывот цяжарную жанчыну, калечыць сівых, нямоглых старых людзей, азвярэла лупцуе дубінкаю юных грамадзян "стабільнай, спакойнай краіны" толькі за тое, што яны гавораць на сваёй роднай мове, любяць сваю Айчыну, стаяць за яе незалежнасць і суверэнітэт, хочуць жыць у цывілізаваным грамадстве.

I вось ужо ідзе "касцянізацыя" літаратуры. Усіх нашых незамбіраваных суайчыннікаў не толькі дзівіць, але і шакіруе тое, што цяпер, калі незалежнасць, за якую пакладзена столькі жыццяў лепшых дачок і сыноў Беларусі, раптам прыйшла бяскроўна, спакойна, можна сказаць зваліцца на галовы беларусаў, як "манна нябесная", калі трэба ўпэўнена мацаваць сваю дзяржаўнасць, развіваць эканоміку, навуку, адраджаць родную мову, культуру, у нашай краіне адбываецца зусім адваротнае.

-- А што ж можна супрацьпаставіць гэтаму гвалту, як яго спыніць?

-- Сёння над беларускаю зямлёю вісіць не толькі радыеактыўны Чарнобыль, але і чорная хмара злосці, варожасці і страху. Страх паралізуе душы людзей. А гэта не прыводзіць да дабра. Трэба кожнаму пераадольваць свой страх.

Нам нельга згінацца. Нам трэба абараніць будучыню сваёй Айчыны, будучыню нашых дзяцей і ўнукаў. Кожнай праяве гвалту неабходна даваць рашучы адпор. I таленавітае слова пісьменніка тут прыдатнае, яно здольнае развейваць страх, абуджаць мужнасць у адстойванні праўды і справядлівасці.

# Віза ў Польшчу -- 10--12 еўра

Візы на ўезд у Польшчу для грамадзян Беларусі, Расіі і Украіны будуць каштаваць не даражэй за 10--12 еўра.

Пра гэта заявіў днямі ў Гданьску міністр унутраных спраў і адміністрацыі Польшчы Кшыштаф Янік. "Кошт віз мы хочам зрабіць даступным для грамадзян, -- сказаў ён. -- Мы зробім усё для таго, каб аблегчыць працэдуру атрымання віз. Але візы ў пашпартах будуць неабходныя".

Рашэнне аб увядзенні з 1 ліпеня 2003 года ўязных віз для грамадзян Беларусі, Расіі і Украіны ўрад Польшчы прыняў у лютым гэтага года. Увядзенне візавага рэжыму на мяжы з усходнімі суседзямі з'яўляецца адной з умоў уступлення Польшчы ў Еўрапейскі Саюз.

## Манеты, прысвечаныя юбілеям Коласа, Купалы іДамейкі

Сёлета Нацыянальны банк выпусціць у абарот шэсць памятных манет. Сярод іх -- юбілейныя манеты, прысвечаныя 120-годдзю з дня нараджэння класікаў нацыянальнай літаратуры Янкі Купалы і Якуба Коласа, а таксама 200-годдзю з дня нараджэння вядомага даследчыка Паўднёвай Амерыкі Ігната Дамейкі.

Манеты можна набыць у галоўных упраўленнях Нацыянальнага банка ў сталіцы і абласных цэнтрах. Прычым дапускаецца іх вываз фізічнымі асобамі за межы краіны ў колькасці не больш чым 5 на чалавека, калі гэта манеты з золата, і не больш чым 10 манет з серабра. Манеты ж з медна-нікелевага сплаву можна вывозіць за мяжу на суму, якая не перавышае 100 мінімальных заработных платаў.

**ВІНШАВАНЬНЕ**

*Выдаўцу й рэдактару "Беларускага Дайжэсту"*

"Беларускага Дайджэсту" сто нумароў!
Будзь за гэта, Мікола, жыў і здароў.
Хацеў з такой нагоды ўлік падвесьці,
Ды пачакаю пакуль будзе дзьвесьце.

Янка Запруднік